11 красавіка 2014 | № 14 (383)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

4 ОДА ХАОСУ

У закрытых палітычных сістэмах адсутнічаюць механізмы для вырашэння ўнутраных і знешніх праблем. Таму праблема, калі ўжо аднойчы з'явіцца, пачынае паводзіць сябе як ракавая клетка

6 БЕЖАНЦЫ З КРЫМУ




13 ШТО АДКАЖА КІЕЎ НА СЕПАРАТЫЗМ?

У бліжэйшы час Кіеў павінен знайсці вырашэнне праблемы сепаратызму, інакш канфлікт пяройдзе ў доўгатэрміновую фазу

14 ЛЁС БЕЛАРУСА

Гісторыя жыцця Веньяміна Тоўсціка адлюстроўвае тую трагедыю, праз якую ў XX стагоддзі давялося прайсці беларускаму сялянству: цяжкая праца, вайна, палон, акупацыя, НКУС, лагер у Нарыльску



# Дэнамінацыі не будзе

**Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што новыя грошы, «прыгожыя, падобныя да еўра», ужо аддрукаваныя, але для іх уводу патрэбныя «момант, час, каб эканоміка працавала, каб была стабільнасць». Між тым, стабільнасці пакуль няма.**



Сяргей ПУЛЬША

Апошняя дэнамінацыя праводзілася ў 2000 годзе. Тады з беларускіх купюраў зніклі тры нулі. Зараз незалежныя эканамісты, прынамсі, Леанід Заіка, выказваюць меркаванне, што з заменай грошаў трэба крыху пачакаць, — да тае пары, пакуль долар не будзе каштаваць 10 тысяч рублёў. Тады можна будзе зрабіць курс рубля да долара альбо адзін да аднаго, альбо 1:10. Улічваючы, сённяшні курс рубля, такі час настане даволі хутка.

Але «кратнасць нулёў» — гэта не адзіны фактар для дэнамінацыі. Самы асноўны паказчык, па меркаванні былога старшыні Нацбанка Беларусі Станіслава Багданкевіча — інфляцыя. Дэнамінацыю варта праводзіць толькі тады, калі інфляцыя складае 7–8% (а лепш — 3–5%) на год, і яна стабільна трымаецца ў гэтых межах. Інакш і з новымі грашыма будзе тое ж, што і са старымі: яны пачнуць імкліва «назапашваць» нулі.

А вось з інфляцыяй у нас усё складана. Пры планаваным паказчыку інфляцыі ў 12% за 2013 год насамрэч яна склала, па афіцыйных дадзеных Белстата, 16,5%. Варта адзначыць, што гэты паказчык блізкі да прагнозаў Міжнароднага валютнага фонду, які ў красавіку 2013 года прадказваў інфляцыю ў 16,8%. У тым жа прагнозе МВФ закладваў і інфляцыю на 2014 год — 15,5%. Сусветны банк прагназуе інфляцыю ў Беларусі ў 2014 годзе на ўзроўні 16%.

Інфляцыя апераджае прагнозы, а значыць, сапраўды няма стабільнасці і няма ўмоваў для дэнамінацыі.

Эканамічнае становішча краіны дыктуе і іншыя неабходнасці. За два месяцы гэтага года складскія запасы на прадпрыемствах Беларусі выраслі на 480 мільёнаў долараў, і на 1 сакавіка склалі 80,8% ад сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці. То бок, наша прадукцыя ствараецца, але не прадаецца. Зразумела, ствараецца яна за грошы, якія потым, у выніку няпродажу, мы не атрымліваем. Грошы ж трэба аднекуль узяць, і мы бярэм іх «з тумбачкі» — імкліва скарачаючца золатавалютныя рэзервы краіны.

ЗВР Беларусі скараціліся на 428,5 мільёна долараў у сакавіку, і на 1 красавіка 2014 года склалі 5 715,1 мільёна долараў. За тры месяцы скарачэнне золатавалютных рэзерваў склала 935,76 мільёна долараў. То бок, «крытычную рысу» ЗВР у 8 мільёна долараў мы даўно ўжо перасягнулі.

Як разгрузіць склады так, каб прадаць нашу прадукцыю за мяжу, адначасова атрымаўшы валюту? Радыкальнае выйсце для гэтага — знізіць кошт прадукцыі ў валюце, а значыць, правесці дэвальвацыю.

Наш народ, навучаны горкім досведам 2011-га года, вельмі балюча ўспрыме чарговы абвал рубля, асабліва напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2015 года. Адзінае выйсце з гэтага — заняць яго нечым іншым, каб ён гэтую дэвальвацыю збольшага не заўважыў. Гэта магчыма: у мінулы годзе рубель «плаўна дэвальваваўся» да долара аж на 12%, і ні ў каго і думак не ўзнікла, што ідзе нейкі анамальны працэс.

Калі, насуперак чаканням эканамістаў, сумясціць дэвальвацыю з дэнамінацыяй, грамадзяне збольшага будуць заклапочаныя тым, каб пераводзіць грошы ў гаманцы ды цэннікі ў крамах са «старых» у «новыя» грошы, ды наадварот. Прыкладам, пасля дэнамінацыі долар стане каштаваць не 10 «новых» рублёў, а 15 альбо 20: ці заўважыць гэта «шараговы працоўны», асабліва калі не будзе ведаць, колькі ж у краме каштуе пляшка «пладова-выгаднага»?




**Нашай эканоміцы не дапамогуць ані дэвальвацыя, ані дэнамінацыя**

Такі сцэнар, па меркаванні эканаміста Барыса Жаліба, выглядае даволі фантастычна. Прос та таму, што нашай эканоміцы не дапамогуць ані дэвальвацыя, ані дэнамінацыя. «Тэза аб тым, што «дэвальвацыя дапамагае разгрузіць склады» грунтуецца на факце з падручнікаў: чым слабей нацыянальная валюта, тым лягчэй ідзе экспарт. Але насамрэч гэта не азначае, што такое абавязкова адбываецца, і экспарт аўтаматычна «падыме галаву». Зараз некаторым прадпрыемствам дазволена прадаваць прадукцыю па сабекошце, а тое і ніжэй — гэта значна больш моцны крок для іх, чым дэвальвацыя. А эфекту — нуль», — адзначае Жаліба.

Рэзкую ж дэвальвацыю, па меркаванні эканаміста, не замаскіруеш ані дэнамінацыяй, ані нечым іншым. Бо дэвальвацыя справакуе, найперш, адток рублёвых укладаў у банках і перавод іх у валюту, што выкліча чэргі ў абменніках, і, у сваю чаргу, рэзкае скарачэнне і без таго малых ЗВР. То бок, «банкаўская паніцы» ўсё роўна, колькі нулёў на цэнніках у крамах. «Таму я лічу цалкам слушнай палітыку Нацбанка па ўтрыманні курса беларускага рубля», — зазначыў Жаліба.

Што ж тычыцца дэнамінацыі і «новых грошаў», то тут эксперт раіць Аляксандру Рыгоравічу разабрацца ў паняццях. «Дэнамінацыя — гэта тэхнічнае мерапрыемства, якое праводзіцца для большага камфорту: у банках «зрушваюцца» на некалькі нулёў сумы, знікае колькасць нулёў на паперах... Але афармленне банкнотаў пры гэтым не мяняецца. Калі Лукашэнка заявіў пра «прыгожыя грошы, падобныя на еўра», то гэта ўжо не дэнамінацыя, а «нулефікацыя», і грашовая рэформа», — тлумачыць Жаліба.

На ягоную думку, калі ўжо праводзіць такую рэформу, трэба «сціраць» не тры, а чатыры нулі, бо інакш «праз пяць год мы зноў атрымаем новыя «тысячныя» купюры». «Калі зняць чатыры нулі, то заробак будзе не чатыры мільёны, напрыклад, а 400 рублёў, як у СССР. Гэта нармальна, і гэта дае магчымасць увесці манеты, як ва ўсіх суседніх краінах», — мяркуе эканаміст.

# АГП апасаецца забароны

Генадзь КЕСНЕР

**Кіраўніцтва Аб'яднанай грамадзянскай партыі не выключае, што беларускія ўлады маюць намер спыніць дзейнасць гэтай апазіцыйнай структуры.**

Нацыянальны камітэт партыі найбліжэйшым часам мае намер разгледзець пытанне пра магчымасці дзейнасці арганізацыі ва ўмовах пазбаўлення яе дзяржаўнай рэгістрацыі. Пра гэта на прэс-канферэнцыі 8 красавіка распавёў старшыня АГП Анатоль Лябедзька.

Падставай для выступу перад журналістамі стаўся атрыманы 4 красавіка кіраўніцтвам АГП ліст за подпісам намесніка міністра юстыцыі Беларусі Ігара Тушынскага. У лісце нагадваецца, што, паводле інфармацыі з інтэрнэт-крыніцаў, некалькімі грамадзянамі, уключна з Анатолем Лябедзькам, былі парушаны парадак правядзення масавых мерапрыемстваў (падчас выбараў у мясцовыя Саветы — заўвага Г. К.) у Ваўкавыску, Брэсце і Мінску, за што гэтыя людзі былі прыцягнутыя да адміністратыўнай адказнасці. Як адзначаецца ў дапісе Мінюста, усе гэтыя асобы прадстаўляліся актывістамі АГП.

Кіраўніцтва партыі, нягледзячы на тое, што дадзены допіс не з'яўляецца яшчэ афіцыйным папярэджаннем, угледзела ў ім пагрозу існаванню арганізацыі, адзначыў Анатоль Лябедзька.

«Стаўленне ўладаў да АГП ад пачатку гэтага года мы называем не інакш як спецаперацыяй, накіраванай на стварэнне перашкодаў і бар'ераў для рэалізацыі нашых мэтаў і задач, а ў апошні час прагучалі і пагрозы ліквідацыі нашай палітычнай структуры... Упершыню за 20 гадоў кіравання Аляксандра Лукашэнкі мы падчас апошніх мясцовых выбараў сутыкнуліся з тым, што кандыдатаў у дэпутаты і іх давераных асобаў не проста затрымліваюць, але прапускаюць праз судовыя працэсы і кідаюць за краты. Па-другое, мы бачым, што такія дзеянні былі скіраваныя толькі супраць АГП. Нам за віну ставіцца наша пасланне, з якімі мы пайшлі да выбарцаў, — гэта сумленныя і свабодныя выбары... Нам далі зразумець, што непрымальнымі з'яўляюцца тэмы: персона Аляксандра Лукашэнкі, карупцыя і прывілеі, украінскі Майдан, а таксама чэмпіянат свету па хакеі, палітвязні і скрадзеныя беларускія палітыкі», — адзначыў Лябедзька.

«Лісты ад Мінюста мы расцэньваем як пагрозу, таму на наступным пасяджэнні Палітрады АГП мы разгледзім два пытанні: аб правядзенні з'езда, запланаванага на канец мая, а таксама сцэнар «Б» — дзейнасць партыі ва ўмовах, калі мы не маем юрыдычнай рэгістрацыі. Але ад нашых мэтаў і задач, якія мы перад сабою паставілі, мы не адступім ні на крок», — заявіў партыйны кіраўнік.

# Аўтуховічу трэба паправіць здароўе

Генадзь КЕСНЕР



**Раніцай 8 красавіка на волю выйшаў палітвязень, былы прадпрымальнік і ветэран вайны ў Афганістане Мікалай Аўтуховіч.**

Ён правеў за кратамі 5 гадоў і 2 месяцы, адмовіўшыся прасіць аб памілаванні афіцыйнага беларускага лідара. Прычым апошнія 2 гады Аўтуховіч знаходзіўся ў турме №1 горада Гродна. За гэта час стан здароўя вязня істотна пагоршыўся.

Адным з тых, хто прыехаў у Гродна, каб сустрэць Мікалая на волі, быў ягоны сябра, кіраўнік зарэгістраванай у Кіеве праваабарончай арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву» Алег Волчак, таксама ветэран вайны ў Афганістане.

«Ён выглядае пастарэўшым, відаць, пяць гадоў і два месяцы апошняга зняволення даліся яму вельмі сур'ёзна. Але відаць, што настрой у яго добры, ён спакойны, упэўнены, а ў вачах у яго дух нармальнага мужыка, — адзначае ў інтэрв'ю НЧ Алег Волчак. — Сустрэлі яго вельмі добра, ён не чакаў, што нават уночы прыедзе столькі людзей, у тым ліку журналістаў. Але, на жаль, мала было палітычных лідараў, праваабаронцаў, але і тое добра, як гэта адбылося».

Па словах Волчака, Мікалай зараз зведвае праблемы са здароўем, прынамсі, з зубамі і рукою:

— Ён пакутуе на болі, не можа ўздымаць руку, мы сёння ездзілі да хірурга, і зараз будуць думаць, што рабіць з гэтай рукою, — кажа Волчак. — Ужо ў аўторак а 17-й гадзіне ў Мікалая пачынаецца нагляд, тры разы на тыдзень ён будзе вымушаны адзначацца ў міліцыі, практычна не выязджаць з месца жыхарства. Вельмі сумна, што яму давялося адседзець за кратамі ўвесь тэрмін, хоць мы прыкладалі намаганні, каб вызваліць яго датэрмінова.

Мікалаю патрэбны час, каб агледзецца, паразмаўляць з рознымі людзьмі, каб разабрацца, што да чаго. «Чыста па-чалавечы ён быў, натуральна, вельмі шчаслівы, калі выйшаў на волю. Вельмі было кранальна, як ён сустрэўся са сваёй маці, ён надта хоча сустрэцца з дачкою, але яна вучыцца ў Польшчы, у яе зараз сесія, таму гэтая сустрэча адбудзецца крышачку пазней. Мы шчыра абняліся, нам — сустракаючым — падавалася, што час праляцеў хутка, але для яго гэта была цэлая вечнасць, як я лічу. Асабліва апошнія два гады, калі яго перавялі на турэмны рэжым. Для мяне ён сапраўдны лідар, і каб была крыху іншая ўлада, то такія людзі, як Аўтуховіч, былі б на найвышэйшых кіроўных пасадах у дзяржаве. У яго ёсць граматнасць, адукаванасць, дзелавітасць, мужнасць прымаць рашэнні», — упэўнены праваабаронца.

# Чарнобыльскі шлях–2014

Марат ГАРАВЫ

**Чарнобыльскі шлях–2014 павінен завяршыцца ў Курапатах мітынгам і талакой. Да такой высновы прыйшлі ўдзельнікі пасяджэння аргкамітэту па правядзенні акцыі.**

Мяркуецца сабраць удзельнікаў шляху каля кінатэатру «Кастрычнік» 26 красавіка а 11.30, а пачаць рух — а 12.00 па маршруту: праспект Незалежнасці — Сурганава — Коласа — Лагойскі тракт — Гамарніка — Мірашнічэнкі — Курапаты.

У аргкамітэт акцыі ўваходзяць прадстаўнікі Партыі БНФ і Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады), аргкамітэтаў па стварэнні партыі БХД і руху салідарнасці «Разам», Беларускага руху і Экалагічнага камітэту імя Івана Нікітчанкі.

Сярод заяўнікаў акцыі — Аляксей Янукевіч, Анатоль Сідарэвіч, Марына Хоміч і Ілля Добратвор.

У каментары НЧ ініцыятар правядзення Чарнобыльскага шляху ў Курапаты, сустаршыня аргкамітэту па стварэнні партыі БХД Віталь Рымашэўскі падкрэсліў, што менавіта практычнасць мусіць стаць прынцыпам дзейнасці беларускіх дэмакратычных сілаў. На ягоную думку, «надышоў час перанесці акцэнт да практычных акцый і кампаніяў са зваротаў і апеляцыі да Захаду, які мусіць нам дапамагчы, а насамрэч анічога ён не мусіць, і спадзеваў на яго няшмат. Неабходна праводзіць тое, што прыносіць карысць краіне і беларускаму грамадству. Вось чаму аргкамітэт падтрымаў маю прапанову, і Чарнобыльскі шлях зменіць свой фармат і накіруецца да нацыянальнага мемарыялу ў Курапатах, якому пагражае небяспека з боку ўладаў. А страта Курапатаў стане сур'ёзным ударам па нашым спадзевах на перамены».

Палітык зазначыў, што падчас мітынгу ва ўрочышчы прагучаць як занепакоенасць лёсам Курапатаў, дзе ляжаць бязвінныя ахвяры сталінізму, так і постчарнобыльскімі пытаннямі. Паводле словаў Віталя Рымашэўскага, карані Курапатаў і Чарнобылю — у антыгуманнай ідэалогіі і практыцы злачыннай савецкай улады. А сённяшняя рэаліі — будаўніцтва АЭС і размяшчэнне расійскай ваеннай авіяцыі на Беларусі — працяг палітыкі таталітарнага рэжыму, лічыць палітык.

Нагадаем, што першы Чарнобыльскі шлях быў праведзены БНФ «Адраджэньне» ў сталіцы 30 верасня 1989 года па ініцыятыве Генадзя Грушавога. Нягледзячы на тое, што акцыя не была дазволена, у ёй удзельнічалі каля 30 тысяч чалавек, якія ад Мінскага гадзіннікавага завода прайшлі праз цэнтр горада і правялі мітынг на тагачаснай плошчы імя Леніна.

# Памяці Ібрагіма Канапацкага

Марат ГАРАВЫ

**На доме №62 па вуліцы Рэспубліканскай у гарадскім пасёлку Смілавічы Чэрвеньскага раёна, дзе 28 лютага 1949 года нарадзіўся намеснік старшыні Беларускага грамадскага аб'яднання татараў «Зікр уль-Кітаб» («Памяць і кніга»), кандыдат гістарычных навук Ібрагім Канапацкі, усталявана мемарыяльная дошка.**




На дошцы, створанай вядомым беларускім скульптарам Алесем Шатэрнікам, — барэльефы навукоўцы і Мінскай саборнай мячэці, узведзенай у 1902 годзе і разбуранай у 1962-м. Аднаўленню гэтай мусульманскай святыні шмат гадоў прысвяціў Ібрагім Канапацкі. Дошку ўпрыгожвае выслоўе з Карану па-арабску: «У імя Алаха, Міласцівага, Міласэрнага».

У каментары НЧ дачка навукоўца Зарына Канапацкая распавяла:

— Я вельмі ганаруся нашым шляхецкім родам Канапацкіх гербу «Адвага» — адным з самых старажытных татарскіх радоў на Беларусі. Канапацкія адносіліся да ваеннага саслоўя, якое складала асобную групу феадалаў Вялікага Княства Літоўскага.

Прадстаўнікі нашага роду ўдзельнічалі ва ўсіх важных падзеях айчыннай гісторыі, пачынаючы з XV стагоддзя, калі вялікі князь Вітаўт запрасіў татараў з Крыму на вайсковую службу ў ВКЛ.

Для мяне ўсё гэта не толькі вельмі цікава, але і вельмі важна, бо наш слаўны радавод натхняе, каб адпавядаць сваім знакамітым продкам. Сярод іх былі выбітныя людзі, у тым ліку ўдзельнікі нацыянальна-вызвольнага паўстання 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі; палкоўнік, удзельнік руска-японскай і Першай сусветнай войнаў Гасан Канапацкі, які быў прызначаны камандуючым Беларускай арміі пасля абвяшчэння БНР і выклаў канцэпцыю стварэння нацыянальнага войска; апошні мула Смілавіцкай мячэці — мой прапрадзед Ібрагім Хасіневіч і, безумоўна, мой бацька, якога назвалі ў гонар знакамітага прадзеда.

Для мяне слова «бацька» ўвасабляе любоў, сяброўства і павагу. У памяці ён застаўся клапатлівым татам, строгім настаўнікам і добрым дарадцам. Пры гэтым бацька вельмі паважаў людзей — ад самых маленькіх да старых. Быў чалавека цярплівым, умеў выслухаць і зразумець іншых.

Тата вельмі шанаваў нацыянальныя традыцыі, і кожнае свята мы прыязджалі да бабулі ў Смілавічы, дзе Софія Мустафаўна гатавала святочны стол са знакамітымі калдунамі і іншымі звычайнымі стравамі. Пасля мы абавязкова наведвалі мізар — мусульманскія могілкі, дзе ўшаноўвалі памяць продкаў. Усведамленне беларуска-татарскай гісторыі і культуры з самага маленства для мяне неад'емна звязана менавіта з бацькам. А ягонае ўменне ў кожнай справе знаходзіць галоўнае — вельмі важнае для навукоўца. Вось чаму тата стаў такім выбітным чалавекам.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Загадана «далізаць...»

Сяргей САЛАЎЁЎ




**«Мы да чэмпіянату свету гатовыя. Калі трэба будзе дзесяці далізаць, прывесці ў парадак нейкую вуліцу ці гасцініцу, я думаю, мы гэта зробім за месяц з поспехам», — заявіў Аляксандр Лукашэнка, заслухоўваючы справаздачу па гатоўнасці Мінску да Чэмпіянату свету. А што і каму, і дзе далізаць, гэта мы яшчэ пабачым.**

Даючы справаздачу «пра хакей», прэм'ер Беларусі Міхаіл Мясніковіч лучыўся аптымізмам. Па ягоных словах, гатова ўсё. Беларусь не проста падрыхтавалася да правядзення чэмпіянату, але і пераплюнула ўсю планету ўзроўнем сваёй гатоўнасці да гэтага мерапрыемства. «Спартыўныя аб'екты «Мінск-Арэна» і «Чыжоўка-Арэна», паводле ацэнак экспертаў, з'яўляюцца аднымі з лепшых у Еўропе. Яны гатовыя да правядзення матчаў», — заявіў Мясніковіч.

Свой удзел у спаборніцтвах пацвердзілі ўсе 16 краін: Швецыя, Чэхія, Канада, Славакія, Нарвегія, Данія, Францыя, Італія, Фінляндыя, Расія, ЗША, Швейцарыя, Германія, Латвія, Казахстан і Беларусь. Па стане на 7 красавіка 2014 года, прададзена і забраніравана 354 тысячы квіткоў на «Мінск-Арэну» (75% ад умяшчальнасці) і 142 тысячы квіткоў на «Чыжоўка-Арэну» (67%). Замежным гасцям рэалізавана 70,5 тысячы квіткоў. Асноўная доля продажаў для замежных гасцей прыпадае на Расію і Латвію. На матчы папярэдняга этапу цэны складаюць ад 6 да 50 еўра, на матч фінальнай стадыі — ад 25 да 400 еўра.

Нумарны фонд гасцініц павялічаны больш чым у 2 разы. Усяго ў час чэмпіянату будуць функцыянаваць 43 гасцініцы на 9 тысяч 725 месцаў. «Да чэмпіянату планавалася ўвесці ў эксплуатацыю 14 гасцініц. 12 з іх уведзены па стане на 31 сакавіка. 4 — ужо паўнавартасна працуюць, астатнія даступныя для браніравання. Да 14 красавіка будзе ўведзена гасцініца «Рэнесанс» і да 29 красавіка — гасцініца «Пекін», — удакладніў прэм'ер. Таксама задзейнічаюць 5 інтэрнатаў у студэнцкай вёсцы больш чым на 5 тысяч месцаў. У рэзерве — санаторыі і гасцініцы ў Мінскай вобласці на 2 100 месцаў.

У дадатак да 75 тысяч месцаў грамадскага харчавання адкрыюцца сезонныя кавярні больш чым на 20 тысяч пасадачных месцаў. Распрацаваныя нават адмысловыя меню ў даступным коштавым дыяпазоне. Мясніковіч, на жаль, не ўдакладніў, што такое «адмысловыя» меню і для каго даступны «коштавы дыяпазон». Прадугледжана стварэнне фан-зонаў каля «Мінск-Арэны» і «Чыжоўка-Арэны». Акрамя таго, будуць створаны тры зоны гасціннасці каля Палаца спорту на праспекце Пераможцаў, Мінскага лядовага палаца спорту на Прытыцкага і комплексу «Студэнцкая вёска». У гэтых зонах гасцям будзе прапанаваны «якасны адпачынак з арганізацыяй канцэртных праграм, дыскатэк і іншых мерапрыемстваў».

Дзякуй Міхаілу Уладзіміравічу за грунтоўны даклад. Асабліва за тое, што ён расказаў пра асноўны склад турыстаў — з Расіі, пра фан-зоны і пра зоны гасціннасці. Улічваючы, што мы ведаем паводзіны расійскіх турыстаў, зараз мы ведаем зоны, ад якіх падчас чэмпіянату трэба трымацца як мага далей і абыходзіць іх бокам.

Але прэм'ер змаўчаў пра тое, як будзе арганізаваны гандаль для турыстаў. У прыватнасці, ён нічога не сказаў пра тое, як будуць прадавацца спіртныя напоі і піва, без якога чэмпіянат, канешне, не абыходзіцца, пра рэжым працы дадатковых кавярняў і крамаў. Пэўна, «зоны гасціннасці» не будуць «вольнымі ад бухла», тым больш, што гэта расійскія турысты.

Зноў жа, не зразумела, што ўлады краіны, якая нават у выходныя дні «адрубаецца» не пазней за 12 гадзінаў ночы, маюць намер рабіць з гуляючымі ўсю ноч напралёт заўзятарамі. Яны прыедуць не спаць, а адарвацца па поўную ў краіне, якая па ўсіх здагадках павінна быць вельмі даступнай для тых, хто прыехаў з Захаду, і тым больш для тых, хто прыехаў з Расіі.

Пра гэта паклапаціўся Аляксандр Лукашэнка. Ён запатрабаваў ад Савета бяспекі забяспечыць гэтую самую бяспеку падчас чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску. Але, як сказаў Аляксандр Рыгоравіч, «пры гэтым мы павінны зрабіць так, каб гэтыя меры бяспекі былі ненадакучлівымі, не кідаліся ў вочы, не ціснулі на ўдзельнікаў і гасцей спаборніцтваў, на журналістаў».

То бок, міліцыя будзе працаваць у нязвыклым для сябе «мяккім» рэжыме. Мяккім, зразумела, для замежнікаў, бо адначасова кіраўнік дзяржавы загадаў «не дапусціць правакацыяў». То бок, кожнага замежніка ў гэты час будуць «аблізваць», а ў кожным беларусе бачыць правакатара.

Адзінае, чаго не будзе падчас ЧМ па хакеі — халяўнага інтэрнэту. Аргкамітэту па правядзенні ЧС не атрымалася абыйсці патрабаванне ўказа аб абавязковай ідэнтыфікацыі кожнага інтэрнэт-карыстальніка і тым самым даць бясплатны wi-fi гасцям Беларусі. Неабходнасць папярэдняй аплаты і дрымучыя тэхналогіі зрабілі інтэрнэт недаступным для большасці заўзятараў, якія прыедуць у Беларусь. Гэта звядзе на нішто, па меншай меры ў першыя дні, многія з пералічаных Мясніковічам дасягненняў, як, напрыклад, грамадскае харчаванне з адмысловым меню і развітая транспартная сетка.

«Мы проста абавязаны паказаць сябе ўсёй сусветнай супольнасці з лепшага боку. Я ўпэўнены, што мы зможам прадэманстраваць высокую ступень арганізацыі сусветнага хакейнага форуму, а таксама даказаць усім, што мы — сапраўды цывілізаваная дзяржава ў цэнтры Еўропы», — сказаў Лукашэнка. Без інтэрнэту даказаць нешта сусветнай супольнасці будзе складана.

Будзем спадзявацца, што за месяц усё «даліжуць», бо, канешне, настрой турыстам псуюць, як правіла, дробязі. Напрыклад, дагэтуль слаба працуе сістэма аплаты праезду ў Мінску — тыя самыя валідатары, якія працуюць «праз адзін». Шмат сказана пра вулічныя кавярні, але не сказана пра вулічныя прыбіральні, без якіх «зоны гасціннасці» ператворацца ў смярдзючыя балоты. Увогуле, пра працу камунальных службаў мы не даведаліся нічога...

Канешне, каб заўважыць хібы такога маштабнага мерапрыемства, трэба яго хоць раз правесці. Але не выключана, што пасля ЧМ па хакеі ў Мінску трэба будзе праводзіць яшчэ пару суботнікаў па навядзенні чысціні і парадку, — і далізваць, далізваць, далізваць...

**Адзінае, чаго не будзе падчас ЧМ па хакеі — халяўнага інтэрнэту. Аргкамітэту па правядзенні ЧС не атрымалася абыйсці патрабаванне ўказа аб абавязковай ідэнтыфікацыі кожнага інтэрнэт-карыстальніка і тым самым даць бясплатны wi-fi гасцям Беларусі**

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Фёдар Лісіца



**Першы намеснік міністра лясной гаспадаркі Фёдар Лісіца вызвалены ад займаемай пасады з непрыемнай фармулёўкай.**

У пастанове аб гэтым рашэнні паведамляецца, што чыноўнік звольнены на падставе падпункта 1.4 пункта 1 арт. 40 закона «Аб дзяржаўнай службе» — невыкананне абмежаванняў, звязаных з дзяржаўнай службай.

Паводле афіцыйнай версіі, першы намеснік міністра жыў у службовай кватэры і меў патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоваў. У студзені 2010 года з мэтай будаўніцтва жылля для супрацоўнікаў ведамства быў створаны кааператыў. Спачатку Лісіца ад удзелу ў будаўніцтве кватэры адмовіўся. Але пазней, калі на падставе праверак КДК і Генпракуратуры з ЖБВК рознымі спосабамі «сышлі» паўтара дзясяткі сяброў кааператыву, якія нібыта не мелі права «будаўацца», чыноўнік усё ж напісаў заяву на сяброўства ў ЖБВК. А потым па невядомых прычынах адмовіўся ад кватэры ў гэтым доме.

Не выключана, што непаслядоўнымі рашэннямі ён прыцягнуў да сябе ўвагу з боку кампетэнтных органаў, якія вырашылі праверыць яго дабрабыт. У выніку правяраючыя выявілі некалькі аб'ектаў нерухомасці, да якіх, паводле вынікаў праверкі, «бяздомны чыноўнік» меў ускоснае і нават прамое дачыненне. Па звестках інтэрнэт-выдання Naviny.by, на першапачатковым этапе праверку ў дачыненні да Лісіцы праводзіў Камітэт дзяржкантролю. Затым гэтай гісторыяй заняліся супрацоўнікі Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС. Так што, магчыма, вызваленне ад пасады першага намесніка міністра — толькі шматкроп'е ў гэтай справе.

## Вольга Карач



**Кіраўніца грамадзянскай кампаніі «Наш дом» Вольга Карач больш не з'яўляецца прэтэндэнтам на кандыдацтва ў прэзідэнты на выбарах 2015 года.**

Як заявіла яна ў інтэрв'ю інтэрнэт-рэсурсу «Беларускі партызан», «у мяне ёсць палітычныя амбіцыі, але я не ўпэўненая, што змагу іх рэалізаваць — няхай гэта будзе ў 2015 годзе ці калі-небудзь яшчэ».

Паводле яе словаў, у «Нашага дома» няма стратэгіі на прэзідэнцкія выбары 2015 года. «Вельмі моцны ўплыў на Беларусь аказалі падзеі ва Украіне і ў Крыме. Майдан, наступная анексія Крыма зблыталі нам усе карты. Патрэбен тайм-аўт, каб асэнсаваць усё, што адбываецца — Украіна паўплывала на Беларусь больш, чым хацелася б», — лічыць Карач.

Яна ведае пра перамоўны працэс у стане дэмакратычных сілаў аб абранні адзінага кандыдата ў прэзідэнты ў 2015 годзе, але з ёй «асабіста ніхто не размаўляў аб ролі і месцы «Нашага дома» ў выбарчай кампаніі».

## Уладзімір Бераждкоў



**Пасля 19 гадоў працы галоўны рэдактар найпапулярнейшай у Беларусі спартыўнай газеты «Прессбол» Уладзімір Бераждкоў пакінуў сваю пасаду і стаў старшынёй назіральнага савета ТАА «Прессбол — 91».**

Новым галоўным рэдактарам стаў супрацоўнік выдання Сяргей Кайко. Яго кандыдатура была ўхвалена 8 красавіка на сходзе заснавальнікаў ТАА «Прессбол — 91». Кайко працуе ў выданні з 2001 года. У снежні яму споўніцца 39 гадоў.

Першы нумар газеты «Прессбол» выйшаў у студзені 1991 года. Яе галоўным рэдактарам да 1995 года з'яўляўся Аляксандр Барысевіч. У першыя гады свайго існавання газета была штотыднёвікам, затым фармат выхаду некалькі разоў мяняўся. У цяперашні час газета выходзіць чатыры разы на тыдзень. На правах вядучай спартыўнай газеты краіны «Прессбол» штогод праводзіць апытанне спецыялістаў, гульцоў і журналістаў на званне лепшага футбаліста Беларусі. Акрамя гэтага, выданне прадстаўляе Беларусь у прэстыжных апытаннях газеты «France Football» для вызначэння ўладальніка «Залатога мяча» і шматлікіх плебісцытаў Міжнароднай асацыяцыі футбольнай гісторыі і статыстыкі.

а Азбука паліталогіі

# Ода хаосу



Сяргей НІКАЛЮК




**У закрытых палітычных сістэмах адсутнічаюць механізмы для вырашэння ўнутраных і знешніх праблем. Таму праблема, калі ўжо аднойчы з'явіцца, пачынае паводзіць сябе як ракавая клетка.**

Паводле акадэміка Анатоля Рубінава, усе народы можна падзяліць на дзве катэгорыі: на тых, каму пашанцавала, і на тых, каму не пашанцавала. Беларусы належаць да першай катэгорыі, украінцы — да другой. Падмацую гэту класіфікацыю адпаведнымі цытатамі: *«Уверен, был бы в Украине свой Лукашенко — не было бы сегодня тех бед, которые постигли братскую нам страну»*. Але лідара, *«который смог бы создать в этот переходный период устойчивую государственную систему»*, сярод 50 мільёнаў украінцаў пасля распаду СССР не знайшлося. Адсюль усе няшчасці.

Запрасіць жа іншаземнага палітыка, які валодае лідарскімі якасцямі, украінцы не здагадаліся. А дарэмна. Нашы агульныя продкі ў год 6370 (862 год ад нараджэння Хрыстова) аналагічную праблему вырашылі бліскуча і стварылі тым самым прэцэдэнт у гісторыі. Спашлюся на аўтарытэт летапісца Нестара: «Прыйдзіце ж і кіруйце намі. Зямля наша вялікая і багатая, а парадку ў ёй няма».

### Лізавета I у ролі пошлай дзяўчыны

Сваё разуменне ролі асобы ў гісторыі акадэмік агучвае ўжо не першы раз. Прывяду фрагмент з яго артыкула «Нельга забываць, што заўтра пачынаецца сёння», апублікаванага ў «Советской Белоруссии» ў ліпені 2010 года: *«Народ прекрасно понимает: убери сегодня Лукашенко — и Беларусь мгновенно потеряет свой суверенитет, погрязнув в нестабильности и междоусобицах»*.

Не ўпэўнены, ці чытаў акадэмік «Левіяфана» Томаса Гобса, але натуральны стан беларусаў ён разумее як вайну ўсіх супраць усіх (лац.: bellum omnium contra omnes). Але, паводле Гобса, у такім стане чалавецтва знаходзілася да заключэння «грамадскай дамовы», паводле ж Рубінава — да з'яўлення лідара, здольнага стварыць *«устойчивую государственную систему»*.

Калі спалучыць уяўленні акадэміка пра дзяржаву з уяўленнямі Людовіка XIV, мы можам вывесці формулу сучаснай беларускай дзяржаўнасці: «Дзяржава — гэта адзіны палітык (АП)».

Калі чытачы НЧ лічаць, што аўтар «Азбукі паліталогіі» з гэтай формулай не згодны, дык яны памыляюцца. Стабільнасць сучасных дзяржаў падтрымліваюць інстытуты. Але беларуская дзяржава не з'яўляецца сучаснай. Невыпадкова сам АП неаднаразова параўноўваў яе з крыштальным сасудам, які ён клапатліва нясе ў сваіх руках.

Стабільнасць беларускай дзяржавы забяспечвае моцны лідар, надзелены правам аднаасобна прымаць любыя рашэнні. Ні адзін палітык ні ў адной дэмакратычнай дзяржаве такім правам не валодае. Таму не дзіўна, што рэакцыю Захаду на анексію Крыму АП успрыняў як *«болтовню»*. Ён упэўнены, што *«Запад ни на что не способен»*.

Зразумець, якім чынам стабільнасць дзяржавы можа падтрымлівацца за кошт працы інстытутаў, чалавеку з іерархічным тыпам мыслення не дадзена. Тут напрошваецца яшчэ адзін гістарычны прыклад. *«Мы думали,* — піша Іван Жахлівы англійскай каралеве Лізавеце I, — *что ты правительница своей земли и хочешь чести и выгоды своей стране. Ажно у тебя мимо тебя люди владеют и не токмо люди, но и мужики торговые и о землях прибытка не ищут, а ищут своих торговых прибытков. А ты пребываешь в своем девическом чину как есть пошлая девица»*.

Слабая апынулася англійская каралева, ні на што не здольная. Яе падданыя наўпрост у яе пад носам шукаюць «свае гандлёвыя прыбыткі», замест таго, каб працаваць на карысць краіны. Толькі вось адна нестасоўка, пра якую Іван Жахлівы, зразумела, не здагадваўся: неўзабаве пасля яго смерці Маскоўская дзяржава фактычна спыніла сваё існаванне і пагрузілася ў Смуту. Не знайшлося спецыяліста па транспарціроўцы крыштальнага сасуда з лэйблам «Made in Moscow».

### «Подлетаешь к Бресту — душа радуется»

Яшчэ адно выказванне акадэміка: *«Для нас события в Украине должны послужить большим уроком и предостережением. Надо отчетливо понимать, что утрата политической стабильности в стране всегда оборачивается хаосом и разорением»*.

Анатоль Рубінаў — акадэмік. Але адважуся высунуць здагадку, што ў прыведзеным выказванні пад хаосам ён разумее бытавое бязладдзе, а не катэгорыю касмагоніі, якая азначае першасны стан Сусвету.

Хаос — гэта тое, што супрацьстаіць парадку. Асновай ж парадку, на думку акадэміка, з'яўляецца іерархія, г. зн. жорсткая вертыкаль улады, інакш атрымліваецца як у Англіі пры Лізавеце I. Але і ў сучаснай Еўропе справы ідуць не лепш. *«Я проехал весь мир, я видел Европу — все сжато, все задымлено, все грязно, люди трутся один о другого, толкают... Тяжело там жить людям. И в центре этого хаоса — здесь, посмотрите, Браславские озера, Витебщина — вообще прекрасный край, Беловежская пуща, Брестский регион, подлетаешь к Бресту — душа радуется»* (даклад АП на трэцім Усебеларускім народным сходзе).

Людзі майго пакалення памятаюць хаос перабудовы. Моладзь карыстаецца яго (хаосу) пладамі. Ім цяжка ўявіць, што дзякуючы хаосу з 1990 па 2012 год колькасць легкавых аўтамабіляў, якія прыходзяцца на 1 тысячу чалавек, павялічылася ў Беларусі з 57 да 279.

Не, я не памыліўся. Стабільнасць савецкага тыпу, што разумеецца як нязменнасць, не спалучалася з дынамічным развіццём. Яна падтрымлівалася за кошт падаўлення ўнутраных крызісаў, а не за кошт здольнасці пазбягаць сітуацый, якія да крызісаў прыводзяць. Для падтрымання стабільнасці савецкага тыпу неабходная «жалезная заслона».

Тут варта прыгадаць Паўночную Карэю. Яна стабільная дзякуючы зачыненаму недэмакратычнаму палітычнаму рэжыму. Краіны Захаду стабільныя дзякуючы апоры на адкрытую дэмакратычную палітычную сістэму, якая слаба прыстасаваная для падаўлення канфліктаў, але здольная іх вырашаць і прадухіляць.

Закрытыя сістэмы не маюць унутраных механізмаў для вырашэння праблем. Таму праблема, калі ўжо аднойчы з'явіцца (не мае значэння, паўстала яна пад уплывам знешніх ці ўнутраных фактараў), пачынае паводзіць сябе як ракавая клетка. Калі праблема разрастаецца да крытычнага памеру, а ўлада і грамадства ўжо не ў стане яе ігнараваць, звяртацца да доктара не мае сэнсу. Што тычыцца народнай медыцыны, то ў яе арсенале аказваецца толькі адзін сродак — рэвалюцыя.

Рэвалюцыя — гэта маштабныя палітычныя, эканамічныя і сацыяльныя змены ва ўмовах распаду дзяржавы. Не існуе дзяржавы — няма і сілаў, якія мэтанакіравана перашкаджаюць зменам. Закрытая сістэма трансфармуецца ў адкрытую, і пачынаецца актыўнае засваенне новых элементаў. Як гэта адбываецца на практыцы, мы мелі магчымасць назіраць падчас перабудовы.

Хаос — пажыўны асяродак для працэсаў самаарганізацыі. Аднак новы парадак узнікае не на пустым месцы, а на абломках старога парадку. Абноўленая эліта выкарыстоўвае абломкі і новыя элементы ў якасці будаўнічага матэрыялу, і імкнецца пры гэтым перавесці адкрытую сістэму ў звыклы для яе закрыты стан. Урэшце, у яе гэта атрымліваецца.

### Фанеру клеяць. Верталёты кляпаюць

Зноў звярнуся да дакладу АП на трэцім Усебеларускім народным сходзе: *«Оппоненты власти призывают нас перейти от эволюционного созидания к радикальным реформам и революциям. Этот зуд перемен не от большого ума. Ведь они не хотят понять, насколько тонка грань, отделяющая мирную жизнь от кровопролития и бессмысленной жестокости, стабильность — от хаоса и анархии»*.

Сапраўды, тонкая мяжа аддзяляе стабільнасць ад хаосу ў закрытых механічных сістэмах, не здольных да эвалюцыйных зменаў. Яны развіваюцца, пульсуюць: хаос — аднаўленне — стабілізацыя — дэстабілізацыі — хаос і г.д. Агульны вектар развіцця такі ж самы, што і ў адкрытых сістэм, але з адставаннем, якое нарастае з кожным новым цыклам.

Адна справа — пераследаваць Захад ва ўмовах даіндустрыяльнага грамадства, і зусім іншая — постіндустрыяльнага. 2013 год паказаў, што дрэваапрацоўка — гэта тая тэхналагічная вышыня, якую яшчэ здольная ўзяць беларуская эканамічная мадэль пасля шматгадовых няўдалых спробаў.

АП разабраўся з сакрэтамі вырабу клеенай фанеры і вырашыў паставіць на паток вытворчасць сучасных баявых верталётаў. У Оршы для гэтага грандыёзнага пачынання знайшлася адпаведная пляцоўка. Фанеру клеяць. Верталёты кляпаюць. Вось, у прынцыпе, і ўся розніца. Для тых чытачоў НЧ, што ўсумніліся, прыводжу адпаведную цытату: *«Что такое произвести сегодня в Орше вертолет? Не проблема, если там будет компания «Мотор Сич» с двигателем. Двигатель есть, еще купить пару-тройку сложных приборов, которые, может быть, и не надо у нас производить. А все остальное — бери и клепай, делай корпус»*.

Паводле інфармацыі начальніка ўпраўлення навукі і інавацыйнай палітыкі Міністэрства эканомікі Дзмітрыя Крупскага, усе беларускія дзяржаўныя прадпрыемствы выдаткавалі ў 2012 годзе на распрацоўку новых тавараў каля 80 мільёнаў еўра, у той час калі адзін толькі «Фольксваген» — 9,5 мільярда еўра (5% ад гадавога аб'ёму продажаў).

Мадэрнізацыя дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў ужо паглынула 1,3 мільярда еўра крэдытных рэсурсаў. Новых прарыўных тэхналогій клеення фанеры пры гэтым ніхто не вынаходзіў. Асноўныя выдаткі прыйшліся на будаўніцтва вытворчых будынкаў, закупку і мантаж імпартнага абсталявання.

У колькі абыдуцца беларускія верталёты з кляпанымі карпусамі, імпартным рухавіком і тройкай складаных прыбораў — пытанне для спецыялістаў. Узровень канкурэнтаздольнасці беларускіх вінтакрылых машын на рынку ўзбраенняў, думаю, зразумелы і дылетантам.

Вы спытаеце, а як жа беларускі Парк высокіх тэхналогій (ПВТ), чый уклад у ВУП краіны перавысіў у 2013 годзе ўклад МАЗа, БелАЗа і МТЗ разам узятых? Для адказу на гэта пытанне прапаную чытачам НЧ прыгадаць, калі ў апошні раз АП ствараў міжведамасную працоўную групу для навядзення элементарнага парадку ў сферы IT.

Прыгадалі? Вось у гэтым і ўся і справа! ПВТ — гэта прыклад адкрытай сістэмы, якую моцная дзяржава і яе лідар і не змаглі «зачыніць». Не царская гэта справа — распрацоўваць праграмнае забеспячэнне. Клеіць фанеру і кляпаць верталёты «моцнаму гаспадарніку» савецкай школы больш звыкла.

# «Нашыя правы — нашае багацце»

## Як яно там, у Еўропе?

Міхаіл ПАСТУХОЎ, Сяргей ПУЛЬША

**Беларусь, нягледзячы ні на што, усё ж імкнецца да ўступлення ў Савет Еўропы. З цягам часу мы непазбежна там будзем. І нам прыйдзецца прытрымлівацца асноўнага еўрапейскага дакумента ў галіне правоў чалавека — Еўрапейскай канвенцыі аб абароне правоў і асноўных свабод. Менавіта згодна з гэтым дакументам грамадзяне абскарджваюць парушэнне сваіх правоў у Еўрапейскім судзе па правах чалавека ў Страсбургу.**

### Асноўныя правы і свабоды

Еўрапейская канвенцыя, як звычайна, пачынаецца з прэамбулы, у якой гаворыцца, што дзяржавы — падпісанты Канвенцыі, «поўныя рашучасці зрабіць першыя крокі на шляху калектыўнага ажыццяўлення правоў, сфармуляваных ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека».

Канвенцыя абвяшчае асноўныя грамадзянскія правы і свабоды: права на жыццё; права на свабоду і асабістую недатыкальнасць; права на справядлівае судовае разбіральніцтва; права не лічыцца вінаватым у здзяйсненні злачынства, пакуль віна не будзе даказаная; права на павагу асабістага і сямейнага жыцця, недатыкальнасць жылля і таямніцу карэспандэнцыі. Пры гэтым дакумент забараняе катаванні, а таксама рабства, прымусовую ці абавязковую працы.

У сферы палітычных правоў Канвенцыя замацоўвае ўсяго некалькі правоў: права на свабоду выказвання свайго меркавання, права на свабоду мірных сходаў, права на свабоду асацыяцый, уключаючы права на стварэнне прафсаюзаў.

### Смяротнае пакаранне пад забаронай

Згодна з артыкулам 2 Канвенцыі, гарантуецца права кожнага на жыццё і, адпаведна, забараняецца смяротная кара. У развіццё гэтага дзяржавамі — сябрамі Савета Еўропы быў падпісаны Пратакол №6 аб адмене смяротнага пакарання, дзе наўпрост указана, што ніхто не можа быць прысуджаны да смяротнага пакарання ці пакараны смерцю.

Забарона смяротнага пакарання тлумачыцца не меркаваннем гуманнасці (хоць гэта таксама мае значэнне), не магчымасцю судовай памылкі (што часам здараецца), а тым, што права на жыццё — гэта неад'емнае права чалавека, і дзяржава не можа пазбавіць яго такога права.

Адмена смяротнага пакарання — гэта яшчэ і абмежаванне ролі дзяржавы. Пакуль дзяржава распараджаецца жыццём грамадзян, яны знаходзяцца ў залежнасці ад улады — не важна, якой — дэмакратычнай альбо таталітарнай. Людзі як бы знаходзяцца ў закладніках дзяржавы, а захоп закладнікаў — злачынства ў любым разе, і яго быць не павінна.

### Толькі праз суд!

Для забеспячэння права кожнага чалавека на свабоду і асабістую недатыкальнасць дзяржава павінна выконваць шэраг умоў, і асноўная з іх — ажыццяўляць арышт або затрыманне пры наяўнасці дастатковых да таго падстаў і толькі з санкцыі кампетэнтнага судовага органа.

Ключавое выслоўе тут — «судовы орган». Беларускія праваахоўныя органы нярэдка злоўжываюць правам на затрыманне і заключэнне пад варту падазраваных у здзяйсненні злачынстваў, з разлікам, што пракуроры дадуць згоду на прымяненне такіх мераў. Так часцей за ўсё і адбываецца, бо пракуроры зацікаўлены ў выніках расследавання. Гэта дазваляе хаваць факты прымянення да падазраваных недазволеных метадаў з мэтай атрымання прызнальных паказанняў. Таму права на выдачу санкцый на арышт, як і на падаўжэнне тэрмінаў утрымання пад вартай, сапраўды неабходна перадаць судам.

Згодна з артыкулам 6 Канвенцыі, кожнаму, хто абвінавачваецца ў здзяйсненні злачынства, павінны быць прадастаўлены пэўныя правы: быць неадкладна і падрабязна інфармаваным пра характар і падставу прад'яўленага абвінавачвання; мець дастаткова час і магчымасці для падрыхтоўкі сваёй абароны; абараняць сябе асабіста або з дапамогай абранага ім самім абаронцы або мець прызначанага яму бясплатнага абаронцу; дапытваць паказваючых супраць яго сведкаў або мець права на тое, каб гэтыя сведкі былі дапытаныя, і мець права на выклік і допыт яго сведак на тых жа ўмовах, што і тых, хто паказвае супраць яго; карыстацца бясплатнай дапамогай перакладчыка.

У нашай рэальнасці гэтыя палажэнні запар парушаюцца. Калі падазраваны ў здзяйсненні злачынства не знаходзіцца пад вартай, то абвінавачванне яму прад'яўляецца, як правіла, напрыканцы расследавання. Калі ж асоба была заключана пад варту, то абвінавачванне прад'яўляецца не пазней за 10 дзён. Але звычайна першапачатковае абвінавачванне дапаўняецца новымі эпізодамі: абвінавачанаму ставіцца «букет» злачынстваў. І не «неадкладна», як таго патрабуе Канвенцыя, а ўжо напрыканцы расследавання. У выніку чалавек мае абмежаваныя магчымасці для абароны.



Вельмі кароткі тэрмін даецца і для азнаямлення з матэрыяламі крымінальнай справы. Часцяком забараняецца ксеракапіяванне альбо фатаграфаванне. Калі справа займае, напрыклад, 20 тамоў, то цяжка «перапісаць ад рукі» за 10 дзён і пабудаваць сваю абарону. Гэта таксама «мінус» для абароны і «плюс» — для абвінаваўцы. У выніку і суд ідзе з "абвінаваўчым" ухілам.

### Дадаткі да Канвенцыі

Канешне, у адзін дакумент усе правы чалавека не ўцісне́ш. Таму Еўрапейская канвенцыя па абароне правоў і асноўных свабод увесь час дапаўняецца адпаведнымі дадаткамі — Пратаколамі. На сённяшні дзень іх налічваецца 14.

Пратаколы датычацца розных пытанняў. Найбольшую вядомасць атрымалі Пратакол №1 (аб абароне права ўласнасці; аб праве на адукацыю; аб праве на свабодныя выбары); №4 (аб забароне пазбаўлення волі за даўгі; аб свабодзе перамяшчэння; аб забароне высылкі грамадзян; аб забароне калектыўнай высылкі іншаземцаў); №6 (аб забароне смяротнага пакарання); №7 (аб працэдурных гарантыях у дачыненні да высылкі замежнікаў; аб праве на апеляцыю па крымінальных справах; аб праве на кампенсацыю за памылковы судовы прысуд; аб праве не падвяргацца суду або пакаранню другі раз; пра раўнапраўе мужа і жонкі).

У Пратаколе №1 замацоўваецца права грамадзян на свабодныя выбары, што цягне за сабой абавязак дзяржаў — сябраў праводзіць «свабодныя выбары з разумнай перыядычнасцю шляхам тайнага галасавання ў такіх умовах, якія забяспечваюць свабоднае волевыяўленне народа ў выбары заканадаўчай улады».

Не з'яўляецца таямніцай тое, што выбары ў беларускі парламент, пачынаючы з 2000 года, не адпавядалі міжнародным стандартам. Паказальна, што з 25 рэкамендацый місіі АБСЕ, якая ажыццяўляла кантроль на апошніх парламенцкіх выбарах у Беларусі, пры ўнясенні папраў у Выбарчы кодэкс не была ўлічаная ніводная!

Пратакол №4 замацоўвае права кожнага грамадзяніна на свабоднае перамяшчэнне ў межах дзяржавы і свабоду выбару месца жыхарства, а таксама права пакідаць краіну, уключаючы ўласную.

Да гэтага часу ў Беларусі захоўваецца інстытут прапіскі, дапоўнены рэгістрацыяй грамадзян па месцы сталага жыхарства. Органы ўнутраных спраў і дзяржбяспекі вядуць спісы «невыязных», у якія ўключаюцца як асобы, якія маюць запазычанасці перад дзяржавай, юрыдычнымі і фізічнымі асобамі, так і «палітычна нядобранадзейныя» грамадзяне. Што тычыцца забароны на высылку сваіх грамадзян, то такіх фактаў у нас пакуль не назіраецца, але выпадкаў уцёкаў ад пераследу з боку ўладаў — колькі заўгодна.

Пратаколам №6 забараняецца прымяненне смяротнай кары. Гэты Пратакол ратыфікаваны ўсімі дзяржавамі — сябрамі СЕ, у тым ліку Расійскай Федэрацыяй. Там з 1996 года захоўваецца мараторый на яе прымяненне, нават нягледзячы на страшэнныя наступствы тэрарыстычных актаў.

Пратакол №7 замацоўвае права асоб, асуджаных з прычыны судовай памылкі, на атрыманне кампенсацыі «… згодна з законам або з практыкай адпаведнай дзяржавы».

Калі казаць аб дзейнасці беларускіх судоў, то дамагчыся кампенсацыі ў выпадку незаконнага асуджэння няпроста. Да таго ж, гэтая кампенсацыя пакрывае толькі прамыя страты, якія надышлі для асоб, незаконна прыцягнутых да крымінальнай адказнасці.

Прыкладам можа быць справа Андрэя Бандарэнкі, які знаходзіўся пад вартай падчас папярэдняга расследавання і судовага разбору амаль два гады. Пасля адмены прысуду і спынення крымінальнай справы Вярхоўным судом, Бандарэнка яшчэ два гады дамагаўся рашэння аб выплаце яму кампенсацыі. Ён ацаніў яе ў 400 мільёнаў рублёў. Аднак у выніку некалькіх судовых працэсаў кампенсацыю паменшылі да 100 мільёнаў рублёў — у сярэднім па 4 мільёны за кожны месяц няволі.

Справа Бандарэнкі — ледзьве не адзінкавы выпадак прысуджэння кампенсацыі.

### Кантроль за выкананнем Канвенцыі

Кантроль за выкананнем палажэнняў Канвенцыі і Пратаколаў да яе ўскладзены на тры органа: Еўрапейскую камісію па правах чалавека, Еўрапейскі суд па правах чалавека і Камітэт міністраў Савета Еўропы.

Асноўным гарантам выступае Еўрапейскі суд па правах чалавека. Ён складаецца з суддзяў, якія «павінны валодаць высокімі маральнымі якасцямі і задавальняць патрабаванням, што прад'яўляюцца пры прызначэнні на судовыя пасады або быць прававедамі з агульнапрызнаным аўтарытэтам». Іх колькасць адпавядае колькасці дзяржаў — сябраў СЕ. Суддзі абіраюцца тэрмінам на 6 гадоў і могуць быць пераабраныя.

Для разгляду індывідуальных зваротаў утвараюцца камітэты ў складзе 3 суддзяў, палаты ў складзе 7 суддзяў і Вялікай палаты ў складзе 17 суддзяў.

Суд можа прымаць звароты ад грамадзян і няўрадавых арганізацый, якія з'яўляюцца ахвярамі парушэння дзяржавай правоў, абвешчаных у Канвенцыі або Пратаколе. Пры гэтым патрабуецца, каб імі былі вычарпаныя ўнутрыдзяржаўныя сродкі прававой абароны і не быў прапушчаны шасцімесячны тэрмін з дня вынясення канчатковага рашэння па скарзе. Пры разглядзе звароту ў судовым пасяджэнні маюць права прысутнічаць заяўнік (яго прадстаўнік, адвакат), а таксама прадстаўнік дзяржавы, на якую пададзена скарга.

Калі суд фіксуе парушэнне правоў заяўніка, то можа прысудзіць выплату яму справядлівай кампенсацыі за кошт дзяржавы — адказчыка. Пастанова Еўрапейскага суда можа быць абскарджана любым з бакоў на працягу трох месяцаў у Вялікую палату, рашэнне якой з'яўляецца канчатковым і абавязковым для выканання. Кантроль за выкананнем ажыццяўляе Камітэт міністраў Савета Еўропы.

Вядома, што Беларусь знаходзіцца за межамі Савета Еўропы. Але наша краіна павінна як мага хутчэй стаць сябрам гэтай арганізацыі. Тады грамадзяне Беларусі змогуць атрымаць дадатковыя гарантыі абароны сваіх правоў і свабод.

*Паважаныя чытачы! Свае пытанні па абароне правоў чалавека вы можаце задаць Міхаілу Пастухову, даслаўшы іх у рэдакцыю, альбо ў каментарах пад артыкулам на сайце novychas.info.*

# Бежанцы з Крыму



Зміцер ГАЛКО

**Як ні пнулася расійская прапаганда стварыць з Крыму вобраз выспы парадку і стабільнасці, людзі бягуць адтуль. Бягуць у «ахопленую хаосам» Украіну, якая знаходзіцца «на мяжы катастрофы».**

На паўночна-заходняй ускраіне Кіеву, у Пушча-Водзіцы, у двух санаторыях зараз жывуць 104 дарослых і 29 дзяцей. Крымскія татары, украінцы, рускія, армяне. З Севастопалю, Керчы, Джанкою, Еўпаторыі, Алупкі, Алушты…

Кажуць, расійскае тэлебачанне прадстаўляе гэтых людзей лайдакамі, якія проста скарысталіся момантам і паквапіліся на дармавінку. Магчыма, ёсць і такія, але мне яны не сустракаліся.

Ёсць побытавыя прычыны ад'езду — Ганна, цяжарная жанчына, напрыклад, з'ехала, бо ў Крыму немагчыма нарадзіць. «Хуткая» не выязджае па выкліках, бо ў іх няма паліва. Але ў асноўным людзей прымушаюць з'язджаць патрыятычныя перакананні.

Ці, як выказаўся радыёжурналіст Аляксандр з паўднёвага берагу Крыма, «педагагічныя»: «Я выхоўваў свайго сына як грамадзяніна Украіны… Калі ён спяваў украінскі гімн у нас там, на плошчы, я пабачыў, якімі вачыма ён глядзеў на расійскага казака, і зразумеў, што трэба яго вывозіць».

53-гадовы Віктар Якушаў, беларус па бацьку, які служыў у севастопальскай вайсковай частцы палявым паштальёнам, кажа, што хоча быць «украінцам ва Украіне, а не маларосам у Расіі». Віктар быў абураны і шакаваны тактыкай «зялёных чалавечкаў», пра якую казаў Пуцін і яна сапраўды здзяйснялася на практыцы, ён гэта бачыў на ўласныя вочы: «Расійскія вайскоўцы ўстануць ззаду жанчын і дзяцей, і няхай украінцы толькі паспрабуюць у іх стрэліць». Менавіта такім чынам штурмавалі вайсковую частку Віктара. «Я не магу жыць у краіне, у якой запанаваў гітлерызм, іначай не скажаш», — гаворыць Віктар.

«Раней неяк жылі сабе і жылі, ніхто не дзяліўся на «сваіх» і «чужых». Цяпер пачалі перашэптвацца, касавурыцца, высвятляць, ці хадзіў той на рэферэндум, а чаму тая па-ўкраінску размаўляе, а гэты ці не бандэравец раптам… Мне здавалася, што вакол былі нармальныя людзі, але раптам усё ператварылася ў слоік з павукамі. Натуральны трыццаць сёмы год, з пошукамі ворагаў народу і суцэльнай паранояй. Я з'ехаў ад пачуцця бездапаможнасці — мне хацелася нешта змяніць, бо Пуцін зрабіў вялікую подласць, але гэта было немагчыма», — расказвае мой суразмоўца.

68-гадовы Міхаіл Пятровіч Піштой з Новаазёрнага, што пад Еўпаторыяй, назіраў, як расійскія вайскоўцы атакавалі мінны тральшчык «Чаркасы». Той самы, які пад песню «Врагу не сдаётся наш гордый Варяг» прарваўся з возера Донузлаў, праігнараваўшы ўльтыматум Расіі. «Калі на ім абвясцілі баявую трывогу, усе гэтыя расійскія дэсантнікі разбегліся хто куды. Камандзір кажа: я вам зараз шандарахну ў штаб, калі не супакоіцеся, і ўсё… Я ім з берагу крычаў: «Слава Украіне!», — гаворыць Міхаіл Пятровіч.

«Чаму я з'ехаў? Бо гэта вайна, баявыя дзеянні, якія я сам бачыў. Вось гэты пінжак раней на мне на зашпільваўся, а зараз, бачыце, як добра сядзіць. Схуднеў увесь. Яшчэ да рэферэндуму я ехаў у электрычцы на Севастопаль. Дыскутаваў там з суседзямі, выказваўся за Украіну, як звычайна. І што вы думаеце? Выходзім на перон, а мае апаненты мяне казакам здаюць. Прыезджым, хамуйлам нейкім няўмытым. Кажуць, забярыце — гэта бандэраўскі агітатар. Ну, тады казакі яшчэ настолькі не расперазаліся. Але атаман іхны мне сказаў: глядзі, дзед, было б гэта ноччу, быў бы ты ў нас бедны. Здалі мяне ў міліцыю. Тыя, праўда, адпусцілі. Параілі казакоў абыходзіць, бо яны «ўсіх разарваць гатовыя», — расказвае спадар Піштой.

**«Раней неяк жылі сабе і жылі, ніхто не дзяліўся на «сваіх» і «чужых». Цяпер пачалі перашэптвацца, касавурыцца, высвятляць, ці хадзіў той на рэферэндум, а чаму тая па-украінску размаўляе, а гэты ці не бандэравец раптам... Мне здавалася, што вакол былі нармальныя людзі, але раптам усё ператварылася ў слоік з павукамі**

Мой суразмоўца дадае, што «праз пуцінскую прышчэпку ў бліжэйшыя сто гадоў ніякага сяброўства ў нас з Расіяй не будзе». Міхаіл Пятровіч упэўнены — Крым вернецца ва Украіну.



Сям'я Слабадзенюкоў



Віктар Якушаў, бежанец з Крыму



Піштой Міхаіл Пятровіч



Малюнак дзяцей з Крыму на вуліцы

Ён нават даў зарок, што не будзе галіцца, пакуль гэтага не адбудзецца.

Іван Каратаеў — сірата, ягоныя бацькі — рускія, дарэчы, зніклі без вестак. Выхоўваўся ў дзіцячым доме, пасля васямнаццаці гадоў жыў у сацыяльным інтэрнаце. Стаяў у Севастопалі ў чарзе на кватэру. Залівіста смяецца, калі я пытаюся, чаму не застаўся — раптам яму Пуцін кватэру ў Маскве даў бы? Іван любіць вандраваць, шмат ездзіў па Расіі і Украіне, і зрабіў свой выбар на карысць апошняй. Паказваючы на галаву і сэрца, хлопец кажа: «Вось тут і тут украінцы іншыя». Іван уваходзіць у каардынацыйны цэнтр бежанцаў, які займаецца іхнымі праблемамі. Падтрымлівае сувязь са знаёмымі ў Севастопалі.

«Учора тэлефанавалі адтуль. У Балаклаве, горадзе-спадарожніку Севастопаля, там ёсць гаражны кааператыў, новая ўлада высунула ўльтыматум уладальнікам: праз два дні каб вас тут не было. Людзі не паслухалі, дык тыя прыехалі з будаўнічай тэхнікай і проста знеслі гаражы разам з усім, што там было. У сям'і актывістаў крымскага Еўрамайдану казакі адабралі кватэру ў Ялце, усю маёмасць і выкінулі на вуліцу, сябра майго брата збілі за ўкраінскія ўлёткі… Пры гэтым дзяржструктуры і сацыяльныя службы не працуюць», — расказвае Іван.

Іван згадваў, што быў на захадзе Украіны, у Львове, Івана-Франкоўску, Ужгарадзе, Мукачава. Я пытаюся ў яго, як ён, севастопалец, сын рускіх бацькоў, наважыўся дабраахвотна прыехаць у «логава бандэраўцаў».

«Я ведаю ўкраінскую мову, але праз адсутнасць практыкі ў Севастопалі размаўляў кепска на ёй, таму на захадзе звяртаўся да людзей па-руску. І ніколі не сустракаў непрыязі да сябе з гэтай прычыны. Па Львову спакойна гуляў па начах, нават на Высокі Замак падымаўся ўначы… Дарэчы, Крым мог бы павучыцца ў Львова ў плане турызму. У іх там столькі цікавостак, узровень абслугоўвання высокі, класны горад, я ў яго проста закахаўся. І праз тое, што да іх шмат турыстаў адусюль прыязджае, яны талерантна да розных людзей ставяцца. А вось у сябе дома аднойчы быў сведкам непрыемнай сцэны, калі нейкі п'янаваты мужык у маршрутцы груба абразіў дзяўчыну, якая размаўляла па-ўкраінску. Хаця менавіта ўкраінцы ў асноўным прыязджалі адпачываць у Крым. Ну, цяпер яны не пачуюць ненавіснай украінскай мовы, але турыстычны сезон пахаваны. Яны заўсёды зайздросцілі тым, хто працаваў на Чарнаморскім флоце. У іх там сапраўды высокія заробкі. Толькі на флот жа ўсіх не возьмуць», — гаворыць хлопец.

Мой калега, журналіст Аляксандр, просіць не называць ягонага прозвішча і не фатаграфаваць яго, бо ён яшчэ не ўсіх вывез на мацярык, баіцца за родных, кажа, што яго больш за ўсё абурае крывадушнасць Крамля.

«У куртуазнай сярэднявечнай культуры ў рыцара заўсёды была дама-шырма, каб ніхто не здагадаўся, каго ён насамрэч кахае. Дык вось усе гэтыя размовы пра абарону суайчыннікаў, горад рускай славы (хаця чаму рускай, калі там ваявалі ўкраінскія дывізіі?) — гэта куртуазны маньерызм. Мэтай захопу Крыма было здабыццё перавагі на нафтагазавым рынку, і толькі…» — кажа Аляксандр.

Мой суразмоўца разважае пра тэзу расійскай прапаганды, што Крым «падарыў» Украіне «п'яны Хрушчоў».

«Галоўнай мэтай было наладзіць гаспадарку. Як гаспадарацьдзе-небудзь у Разані? Саджай у гразь — і будзеш князь. А тут пустыня, ваду па кропельцы збіраць трэба. Разанскі селянін не дасць рады, таму патрэбныя былі сяляне з Херсоншчыны… Але ладна, хай падарыў, дык не скралі ж, чаму вы паводзіцеся з намі, нібыта са злодзеямі? І хто гэта падарункі назад забірае?»

Аляксандр згаджаецца з маімі аргументамі, што нельга казаць пра атрыманне Украінай Крыму «на дармавінку» хаця б таму, што ў склад СССР ён увайшоў, у значнай ступені, дзякуючы арміі Нестара Махно, створанай з вальналюбных украінскіх сялянаў. Па чутках, бальшавікі абяцалі аддаць паўвостраў яму для стварэння эксперыментальнай анархісцкай рэспублікі. А потым жорстка падманулі…

«Калі быць шчырым, сапраўдныя гаспадары Крыму — гэта татары. У іх нават у паставе гэта заўважна. Мы, украінцы, ходзім там, як… проста зямляне, скажам, гэтыя, што пад трыкалорамі, як акупанты, а ў іх паходка гаспадарская. Іх часам толькі па паходцы і можна пазнаць, бо антрапалагічны тып з тамтэйшымі рускімі часта зусім аднолькавы. Дарэчы, аўтаномій тэрытарыяльных у СССР не было. Крым стаў аўтаноміяй праз татараў. І менавіта яны мусяць вырашаць лёс паўвострава. Думаю, урэшце так і будзе», — рэзюмуе Аляксандр.

Але пакуль многія з іх вымушаны бегчы на мацярык. Бо, як кажа Астап, крымскі татарын, мець палітычныя погляды, адрозныя ад сувораўскага «Мы — русские! Какой восторг!», у Крыме проста небяспечна — «можна выйсці з дому і не вярнуцца».

Я паабедаў разам з бежанцамі гарохавым супам, грэчкай з курыцай і салатам, усё вельмі смачнае, як хатняя ежа. Гатуе ім повар санаторыю Кіеўпастрансу з прадуктаў, якія прывозяць звычайныя кіяўляне. Адны з іх — сям'я Слабадзенюкоў. Анатоль — херсонец, былы вайсковы лётчык, Лідзія — медыцынскі работнік, нарадзілася і вырасла ў Пецярбурзе, дасюль захавала пецярбургскае вымаўленне. Усю сваю пенсію аддавала на Майдан. «А тут новая бяда…» — уздыхае Лідзія.

Яны жылі ў тым ліку ў Германіі, і Анатоль кажа пра тое, што ўсходняя яе частка «дасюль не ачомалася», застаецца ў значнай ступені дэпрэсіўным рэгіёнам. «Усё таму, што былі пад Расіяй…» — гаворыць Анатоль.

«Мне вельмі, вельмі сорамна за сваіх суайчыннікаў… Апамятайцеся!» — звяртаецца Лідзія да рускіх.



Склад ахвяраваных рэчаў

# TV

## 14 КРАСАВІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.50** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.05** Серыял «Шулер» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**16.30** Дак. цыкл «Сямейныя меладрамы».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Арэна.
**19.40, 00.10** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Драматычны серыял «Вербніца» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**23.55** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.45** Дзень спорту.
**00.55** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**01.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Яны і мы».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Справа ваша…».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Выспа Крым».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: Ток-шоў «Пазіцыя».
**22.05** АНТ прадстаўляе: «Канцэрт Прэзідэнцкага аркестра».
**23.20** Фільм «Каханне і іншыя акалічнасці».
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.45** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.40** «Такі лёс».
**12.30** «Чатыры вяселлі».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** «Зорны рынг. Новы сезон.
**15.30** «Не хлусі мне!».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Ежа багоў».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Глыбокае сіняе мора». ЗША-Аўстралія, 1999г.
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Двое з куфра 2» (Расія).
**10.05** Тэлебарометр.
**10.40** Дэтэктыўны серыял «Я - целаахоўнік».
**11.45** Камедыйны серыял «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**14.05** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**14.35** Камедыйны баявік «Нацыянальная бяспека» (ЗША).
**16.20** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**17.00** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Серыял «Двое з куфра 2» (Расія).
**18.55** Прэм'ера. Вострасюжэтны дэтэктыў «Бывай, каханая» (Расія). 1-я, 2-я серыі.
**20.50** Цела чалавека.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**22.40** Серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**23.35** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**00.20** Дэтэктыўны серыял «Я - целаахоўнік» (Расія).
**01.10** Музычны конкурс «GBOB» у Беларусі.

### Беларусь 3

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Сімвалы эпохі». Партыйны білет.
**08.20** Дзіцячы фільм. «Казкі-разбойнікі».
**09.25** «Дыя@блог». «Пра мову» з Навумам Гальпяровічам.
**09.50** Серыял. «Мегрэ».
**10.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці опернай спявачкі, народнай артысткі СССР Святланы Данілюк.
**11.05** «Размаўляем па-беларуску».
**11.10** С.Ясенін. «Ганна Снегіна». Музычна-паэтычная кампазіцыя.
**12.15** «Калейдаскоп».
**12.25** «Сімвалы эпохі». Партыйны білет.
**12.35** «Без сонца». Мастацкі фільм па матывах п'есы М.Горкага «На дне».
**14.20** «Музеум». Выданні Скарыны.
**14.35** «Размаўляем па-беларуску».
**14.40** Мультфільм.
**14.55** «Калейдаскоп».
**15.05** «Сімвалы эпохі». Партыйны білет.
**15.20** «Творцы». Народны артыст Беларусі, рэжысёр Канстанцін Саннікаў.
**15.45** «Цуды прыроды». Лапландыя. Альпы. Францыя. Гібралтар.
**16.10** «Размаўляем па-беларуску».
**16.15** «Палескі пачастунак».
**16.30** «Тэатральны ліцэй». Юнацтва - гэта адплата. Аб няўдалых спектаклях МХАТа па савецкай тэматыцы.
**16.55** «Калейдаскоп».
**17.05** «Сімвалы эпохі». Партыйны білет.
**17.20** «Госць». Кароткаметражны фільм па матывах апавядання Я.Сіпакова «Госць у сенажаць».
**17.50** «Наша спадчына». Палац у Дзятлаве. Часткі 1-я і 2-я.
**18.20** «Адкрыццё». Пісьменнік Алесь Адамовіч.
**18.45** «Размаўляем па-беларуску».
**18.50** «Пра каханне...» Драматычная гісторыя Барбары Радзівіл і Караля Жыгімонта II Аўгуста, якая разгортвалася ў XVI стагоддзі.
**19.20** «Падарожжа са смакам». Францыя.
**19.55** Серыял. «Зорка эпохі». 1-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Серыял. «Мегрэ».
**22.00** «Дыя@блог». «Пра мову» з Навумам Гальпяровічам.
**22.30** «Сэрцы чатырох». Мастацкі фільм.
**23.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці опернай спявачкі, народнай артысткі СССР Святланы Данілюк.
**00.20** «Калейдаскоп».
**00.30** «Сімвалы эпохі». Партыйны білет.

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40** «Новыя рускія сенсацыі».
**09.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.10** «Гатуем».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**19.35** Дэтэктыўны серыял «Чужы раён».
**21.15** Серыял «Брацянікі».
**23.00** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**23.20** Сёння. Вынікі.

### Белсат

**07.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.25** Зона «Свабоды».
**08.05** Форум (ток-шоў): Школьны вальс.
**08.50** Фітнес-шмітнес.
**09.10** Два на два (тэледыскусія): Георгій Плашчынскі і Андрэй Елісееў.
**09.45** Дакументальная гадзіна: «Апошнія дні СССР», дак. фільм, 2011 г., Францыя.
**10.35** Эксперт (сатырычная праграма).
**11.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.35** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 1 серыя.
**12.25** ПраСвет.
**12.50** Два на два (тэледыскусія): Георгій Плашчынскі і Андрэй Елісееў.
**13.25** Зона «Свабоды».
**14.05** Форум (ток-шоў): Школьны вальс.
**14.50** Фітнес-шмітнес.
**15.10** «Новая Польшча», дак. фільм, 2010 г., Польшча – ЗША.
**16.05** «Ціхі хаос», маст. фільм, 2008 г., Італія.
**17.55** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 1 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Пінгвінік Пік-Пок».
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Dэвайс.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.35** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**22.10** «Ціхі хаос», маст. фільм, 2008 г., Італія.
**00.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.35** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**02.00** Аб'ектыў.
**02.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.45** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).

## 15 КРАСАВІКА, АЎТОРАК

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 15.00, 19.00, 01.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10-15.00** Прафілактыка на канале.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Галявая перадача.
**15.30** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**16.30** Дакументальны цыкл «Сямейныя меладрамы» (Украіна).
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.25** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Прэм'ера! Меладраматычны серыял «Парфюмерша» (Расія). 1-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Драматычны серыял «Вербніца» (Расія). 3-я і 4-я серыі.
**23.55** Вечар цяжкага дня.
**00.45** Сфера інтарэсаў.
**01.20** Дзень спорту.
**01.30** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05-15.00** Тэхнічная прафілактыка.
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Выспа Крым».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Дзяўчыны».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Позняе раскаянне». Шматсерыйны фільм.
**23.05** Прэм'ера. Камедыя «Зусім не бабнік».
**00.45-01.15** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** Прафілактыка.
**15.05** «Прошаная вячэра».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Шмат шуму з нічога». Вялікабрытанія, 2005г.
22.00 Прэм'ера! СТБ прадстаўляе: «Шай-бу! Shai-BY!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоў «Разумней не прыдумаеш».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** Фільм «Вячэрняя сукенка». Францыя, 1986г.

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05-15.10** Прафілактыка на канале.
**15.10** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.15** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**17.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра 2» (Расія).
**18.55** Вострасюжэтны дэтэктыў «Бывай, каханая» (Расія). 3-я, 4-я серыі.
**20.50** Цела чалавека.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**22.40** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**23.35** Вышэй за дах.
**00.05** Музычны конкурс «GBOB» у Беларусі.

### Беларусь 3

**07.20** Тэхнічная прафілактыка.
**15.05** «Калейдаскоп».
**15.10** «Сімвалы эпохі». Аўтамат Калашнікава.
**15.25** «Скарбніца Віцебшчыны». Маёнтак роду Лапацінскіх.
**15.50** «Размаўляем па-беларуску».
**15.55** Мультфільм.
**16.20** «Музеум». Урэцка-Налібокскае шкло.
**16.35** «Камертон». Гітарыст, народны артыст Расіі Аляксей Кузняцоў.
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.10** «Сімвалы эпохі». Аўтамат Калашнікава.
**17.20** «Пейзажы скрозь час». Поль Сезан. «Гара Сент-Віктуар».
**17.50** «Легенды Беларусі». Барбара Радзівіл.
**18.00** «Тэатральны ліцэй». Свае і чужыя. Разважанні акцёраў аб развіцці сістэмы Станіслаўскага.
**18.25** «Палескі пачастунак». Боршч і галушкі.
**18.40** «Каранi». Барыс Казлоўскі і яго вясковы музей.
**19.05** «Сямейны альбом». Жыццё і творчасць кінарэжысёра Міхаіла Пташука.
**19.20** «Размаўляем па-беларуску».
**19.25** Прэм'ера. «Зямля, якая дае мне сілы». Дакументальны фільм пра вядомага беларускага харэографа і танцора Мікалая Котава.
**19.55** Серыял. «Зорка эпохі». 2-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Серыял. «Мегрэ».
**22.00** «Дыя@блог». «Пра літаратуру» з Тацццянай Сівец і Стэлай Чырковай.
**22.25** «Чаканне палкоўніка Шалыгіна». Мастацкі фільм.
**23.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака-кераміста, педагога Міхаіла Бяляева.
**00.15** «Калейдаскоп».
**00.25** «Сімвалы эпохі». Аўтамат Калашнікава.

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40- 15.10** Прафілактыка на канале.
**15.10** «Справа густу».
**15.35, 18.35, 23.00** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00, 19.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**19.35** Дэтэктыўны серыял «Чужы раён».
**21.15** Серыял «Брацянікі».
**23.20** Сёння. Вынікі.
**23.45** Серыял «Дзікі».

### Белсат

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35** Асабісты капітал.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**09.40** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**10.10** Два на два (тэледыскусія): Георгій Плашчынскі і Андрэй Елісееў.
**10.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Валенцій Ваньковіч.
**10.50** «Маці сваёй маці», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**12.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**14.00** Асабісты капітал.
**14.20** Аб'ектыў.
**14.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**15.10** Відзьмо-невідзьмо.
**15.35** Два на два (тэледыскусія): Георгій Плашчынскі і Андрэй Елісееў.
**16.10** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Валенцій Ваньковіч.
**16.20** «Маці сваёй маці», маст. фільм, 996 г., Польшча.
**17.50** Дакументальная гадзіна: «Апошнія дні СССР», дак. фільм, 2011 г., Францыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды Ціўкі».
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.25** Тэатр ваенных дзеянняў.
**20.40** Без межаў.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Беларуская дзіцячая літаратура – каму яна патрэбная?.
**22.10** «Аповеды выходнага дня», цыкл маст. фільмаў.
**23.05** Форум (ток-шоў): Школьны вальс.
**23.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.35** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**01.50** Аб'ектыў.
**02.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.35** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Беларуская дзіцячая літаратура – каму яна патрэбная?

TV

## 20 КРАСАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.05** Камедыя «Жаніцьба Бальзамінава» (СССР).
**08.40** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**08.50** Слова Мітрапаліта Паўла.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты 3» (Украіна).
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** «XXL WOMAN TV». Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Каробка перадач.
**13.50** Таямніцы следства.
**14.30** БеларусьLIFE.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Мірны тур.
**15.45** Eurovision. Вынікі тыдня.
**16.05** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**17.30** Меладрама «Самая Прыгожая 2» (Расія). 1-я - 4-я, заключная, серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Меладрама «Копія сапраўдна» (Францыя-Італія-Бельгія).
**00.10** Камедыйны серыял «Сваты 3».

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**12.20** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**13.20** «Лятучы карабель». Мультфільм.
**13.50** «Здабытак Рэспублікі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Камедыя «Высокі бландын у чорным чаравіку».
**18.00** АНТ прадстаўляе: «Рассмяшы коміка».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Дыханне планеты».
**21.40** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**00.00** Фільм «127 гадзін».

### СТВ

**06.05** «Студэнты». Серыял.
**07.45** Фільм «Каханне па правілах і без». ЗША, 2003г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Цягніся, цягніся, зачараванне…». СССР, 1984г.
**14.25** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Прэм'ера! «Чатыры вяселлі».
**17.50** «Аўтапанарама».
**18.20** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** Фільм «Фантомны боль». Германія, 2009г.
**22.30** Прэм'ера! Шоў «Арганізацыя Вызначаных Нацый».
**00.10** Фільм «Месяц у бутэльцы». Вялікабрытанія-Іспанія, 2007г.
**01.45** «Глядзець усім!».

### Беларусь 2

**07.45** Камедыйны серыял «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**08.40** Тэлебарометр.
**08.45** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**10.00** Заўтра - гэта мы!
**10.35** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**11.05** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**13.25** Забаўляльная шоў-праграма «СуперІнтуіцыя. Каханне».
**14.35** Аўтабатл.
**15.10** Стыль-бюро.
**15.45** Фантастычныя прыгоды «Чалавек-павук 2» (ЗША).
**18.05** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў.
**19.15** Суперлато.
**20.05** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Цела чалавека.
**21.40** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Размовы пра духоўнае». Вялікдзень (праваслаўная канфесія).
**08.10** Сусветнае кіно. «Салярыс». Па матывах твора Станіслава Лема.
**10.50** «Размовы пра духоўнае». Вялікдзень (каталіцкая канфесія).
**10.55** «Эпоха». Мастак, жывапісец Іван Хруцкі.
**11.50** «Калейдаскоп».
**11.55** «Размовы пра духоўнае». Вялікдзень (праваслаўная канфесія).
**12.00** «Наперад у мінулае».
**12.30** Дзіцячы фільм. «Чароўны голас Джэльсаміна». Паводле казкі Джані Радары. 1-я і 2-я серыі.
**14.40** «Таямніца душы». Інтэрв'ю з Мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Паўлам, Патрыяршым экзархам усея Беларусі.
**15.05** «Культпрасвет».
**15.35** «Размовы пра духоўнае». Вялікдзень (каталіцкая канфесія).
**15.40** Трансляцыя Велікоднага Паслання і Блаславення «Граду і Свету» з Ватыкана з удзелам Папы Рымскага Францыска І.
**16.25** «Калейдаскоп».
**16.30** «Майстар і Маргарыта». Маст. фільм паводле рамана М.Булгакава. 6-10 серыі.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.10** «Размовы пра духоўнае». Вялікдзень (праваслаўная канфесія).
**21.15** «Нацыянальны акадэмічны народны хор Рэспублікі Беларусь імя Г.І.Цітовіча». Канцэрт. Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор - народны артыст Беларусі Міхаіл Дрынеўскі.
**22.30** «Культпрасвет».
**22.55** «Размовы пра духоўнае». Вялікдзень (каталіцкая канфесія).
**23.00** «Вечар». Спектакль Дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа паводле п'есы А.Дударава.
**01.05** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.20** «Першая перадача».
**10.50** «Цуд тэхнікі».
**11.20** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Дачны адказ».
**13.15** «Таямнічая Расія».
**14.10** «Хрушчоў. Першы пасля Сталіна».
**16.15** «І зноў добры дзень!».
**16.40** «Следства вялі…».
**17.35** «Вочная стаўка».
**18.25** «Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень».
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.50** Фільм «Дуброўскі».
**23.55** «Школа зласлоўя».
**00.40** «Авіятары».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак.
**07.50** «Тры шалёныя нулі», серыял: 13 серыя.
**08.20** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**09.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**09.10** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Беларуская дзіцячая літаратура – каму яна патрэбная?.
**09.40** Без рэтушы: «Тонечка», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**09.55** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.20** Невядомая Беларусь: «Сейбіт», дак. фільм, 2014, Польшча.
**10.55** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Вынаходлівы Дабрамір».
**11.30** «Ажыятаж вакол Басі», серыял: 7 серыя.
**12.00** «Тры шалёныя нулі», серыял: 13 серыя.
**12.30** «Таямніцы Дамавіны Гасподняе», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**13.10** МакраФон: Рамантычны канцэрт: ч. 1.
**13.55** Фітнес-шмітнес.
**14.10** «Дэфект», тэлесерыял: 2 серыя.
**15.10** «Прачытаўшы, спаліць!», камедыя, 2009 г., ЗША.
**16.45** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 11 серыя.
**17.35** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**18.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Вынаходлівы Дабрамір».
**19.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Уладзіслаў Сыракомля.
**19.15** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**19.50** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.25** Дакументальная гадзіна: «Невядомае жыццё Ісуса», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**21.15** Фільматэка майстроў: «Анна Карэніна», драма, 1997 г., ЗША.
**23.00** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Кацярына Аверкава.
**23.30** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя: 3012741108019 Лицевой счет: Код 739
УНП*: 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир




# Выбары: куды крочыць Венгрыя?

Аксана КОЛБ

**Парламент Венгрыі абраны. «ФІДЭС» будзе кіраваць краінай яшчэ чатыры гады. Гэта будзе шлях да аўтарытарызму — так лічыць апазіцыя. Венгрыя стане ўзорам для ўсёй Еўропы — лічыць «ФІДЭС».**

Адкрыццё новай лініі метро, плошчы Ляяша Кошута пасля рэканструкцыі, сучаснага футбольнага комплексу на радзіме прэм'ера, зніжэнне коштаў на камунальныя паслугі, павелічэнне заробкаў дактароў і настаўнікаў — усё гэта адбывалася напярэдадні парламенцкіх выбараў. І ўсё гэта павінна было ўпэўніць венгерскага выбаршчыка, што лепей за Віктара Орбана і яго партыю «ФІДЭС» ніхто не можа кіраваць краінай.

Напярэдадні выбараў венгерскі сацыялагічны цэнтр «Median» апублікаваў дадзеныя апытання, згодна з якімі правячая партыя «ФІДЭС» карысталася падтрымкай толькі 36 працэнтаў выбаршчыкаў. Але і ўзровень падтрымкі лева-ліберальнай кааліцыі на чале з лідарам Сацыялістычнай партыі Аціламі Мештэрхазі знізіўся з 23 да 18 працэнтаў. Гэта — вынік карупцыйнага скандалу.

Скандал разгарнуўся вакол былога віцэ-старшыні сацпартыі Габара Сімана, якога арыштавалі ў сакавіку па падазрэнні ў няслаце падаткаў. Праўрадавая газета «Мадзяр Немзет» паведаміла, што палітык мае таемны рахунак у Аўстрыі, на якім знаходзіцца 240 мільёнаў форынтаў (каля 800 тысяч еўра). І хаця яшчэ ідзе следства, скандал моцна паўплываў на рэпутацыю апазіцыйнай кааліцыі, якая і без гэтага мела шмат праблемаў.

Дарэчы, у 2010 годзе ў тым ліку карупцыйны скандал дапамог Віктару Орбану атрымаць пераважную большасць у венгерскім парламенце. І хаця зараз, калі верыць сацыялагічным апытанням, каля 60 працэнтаў венграў жадалі змены ўрада, нічога дзіўнага ў тым, што «ФІДЭС» перамагла, няма.

І справа не ў тым, што венграм вельмі падабаецца кіраўніцтва Орбана ці яго перадвыбарчая праграма. У «ФІДЭС» наогул не было перадвыбарчай праграмы. Хаця папулісцкія заходы і лозунгі Орбана, безумоўна, клаліся на ўрадлівую глебу крызіснага становішча Венгрыі.

Справа ў тым, што сённяшняе венгерскае выбарчае заканадаўства, што называецца, заточана пад правячую партыю.

У 2012 годзе разам са зменай канстытуцыі, што значна цэнтралізавала ўладу, Орбан змяніў і выбарчае заканадаўства. Апазіцыя назвала тады ўсе гэтыя змены «ўдарам у твар дэмакратыі». І мела рацыю.

Па новаму выбарчаму закону, амаль удвая скарацілася колькасць дэпутатаў — да 199 (106 — аднамандатныя, 93 — партыйныя спісы). Суадносна павялічылася і тэрыторыя акругі, ад якой абіраецца дэпутат.

«Праблема не толькі ў тым, што значна павялічылі памер акругі, — папярэджвала яшчэ ў верасні экс-старшыня Сацыялістычнай партыі Ільдзіка Лендваі, — а ў тым, што гэтыя акругі цалкам перадзялілі. Да тых раёнаў, дзе былі даволі моцныя пазіцыі ў сацыялістаў ці лібералаў, дадаліся тэрыторыі, якія традыцыйна падтрымліваюць кансерватараў, то бок правячую партыю «ФІДЭС». Акрамя таго, змянілася сістэма заліку так званых кампенсаторных галасоў (галасы, пададзеныя за кандыдатаў, што пацярпелі паразу ў аднамандатных акругах, часткова кампенсаваліся партыям, якія пераадолелі 5-працэнтны бар'ер). Цяпер кампенсацыю атрымлівае не той, хто прайграў, а той, хто выйграў. Пры сённяшняй сістэме падліку галасоў для атрымання 2/3 месцаў у парламенце будзе дастаткова і 45% галасоў выбаршчыкаў».

Новы закон забараніў выкарыстоўваць для выбарчай кампаніі прыватныя СМІ і інтэрнэт, дазваляючы карыстацца толькі бясплатнымі плошчамі ў дзяржаўных выданнях. Працягласць жа самой выбарчай кампаніі скарацілі да 50 дзён.

А яшчэ новы закон дазволіў удзельнічаць у выбарах венграм замежжа. Для гэтага толькі трэба зарэгістравацца ў Нацыянальным выбарчым бюро (тэхнічны орган), запоўніць спецыяльны бланк і не пазней, чым за 15 дзён да пачатку галасавання, яго даслаць. Ёсць магчымасць і анлайн рэгістрацыі.

«Прыкладна 2–2,5 мільёна выбаршчыкаў жыве за межамі Венгрыі. Калі ўлічыць, што колькасць выбаршчыкаў у самой Венгрыі — каля 8 мільёнаў, то ўплыў замежных венграў можа быць даволі значны. Але гэтыя людзі стала не жывуць у Венгрыі і не могуць аб'ектыўна ацаніць тое, што тут адбываецца. Да таго ж яны будуць галасаваць па пошце, што адчыняе магчымасці для фальсіфікацый», — папярэджвала паўгода таму Ільдзіка Лендваі.

І гэта спраўдзілася — па афіцыйных дадзеных, толькі венгры Сербіі і Румыніі аддалі партыі Віктара Орбана 200 тысяч галасоў.

А яшчэ новы закон адмяніў парог яўкі на выбары і другі тур. Такім чынам, толькі цалкам салідарныя дзеянні апазіцыі дазволілі б з першага туру перамагчы «ФІДЭС». Магчымасці дамовіцца пра адзінага кандыдата ў другім туры, у залежнасці ад вынікаў першага, ужо не было. Гэтак жа, як і не было еднасці ў шэрагах апазіцыі. У выніку — кааліцыя на чале з сацыялістамі атрымала толькі 26 працэнтаў галасоў — найгоршы вынік за дваццаць пяць гадоў.

З улікам пералічанага можна было не сумнявацца, што «ФІДЭС» зноў атрымае парламенцкую большасць. Не стала сюрпрызам і павялічэнне колькасці прыхільнікаў ультраправай партыі «Jobbik» («За лепшую Венгрыю»), якая актыўна выкарыстоўвала антыеўрапейскую і ксенафобскую рыторыку, — 21 працэнт галасоў і 23 месцы ў парламенце.

«Дэмакратычная апазіцыя ў выглядзе блоку пяці партый сацыялістаў і лібералаў палітычна выпрацавалася, страціла давер з-за пастаянных карупцыйных скандалаў. Нават калі б у апазіцыі была моцная перадвыбарчая праграма і электаральная падтрымка, не вельмі зразумела, як яна збіралася кіраваць пасля выбараў, — лічыць венгерскі эксперт па палітыцы абароны і бяспекі Ота Кала. — Адзін з лідараў апазіцыі на фінішы выбарчай кампаніі заявіў, што апазіцыя аб'ядналася выключна на час выбараў, і ўжо нават на еўравыбары ўсе пяць партый пойдуць паасобку. Цікава, чаго б дасягнула такая кааліцыя, калі б раптам перамагла на выбарах? Ні ўзгодненай праграмы, ні моцных СМІ, ні падтрымкі бізнэсу, ні нават адзінства».

Па меркаванні эксперта, лева-ліберальная апазіцыя не змагла рэальна пралічыць свае шансы на перамогу. Яна не ўлічыла, што яе электаральная база моцна скарацілася, а пашырыць яе за кошт іншых сегментаў грамадства апазіцыя не здолела.

«З аднаго боку, сотні тысяч чалавек, якія сімпатызавалі левым, з'ехалі з Венгрыі за лепшым жыццём. Старэйшае пакаленне, якое таксама традыцыйна падтрымлівала левых, альбо памерла, альбо ўжо палітычна неактыўнае. З другога боку, апазіцыя не змагла атрымаць падтрымку цыганскай меншасці. Хаця тут было даволі шырокае поле для дзейнасці. Але ў апазіцыі не было артыкуляванай палітыкі падтрымкі нацыянальных меншасцяў. Па-трэцяе, не быў рэальна ацэнены патэнцыял і дыяпазон падтрымкі з боку венгерскага бізнэсу», — лічыць Ота Кала.

Таму вынік кааліцыі сацыялістаў і лібералаў — толькі 38 месцаў у парламенце — не здзіўляе эксперта.

Такім чынам кааліцыя на чале з Віктарам Орбанам, атрымаўшы 133 месцы ў парламенце, яшчэ на чатыры гады стала кіраўнікоў Венгрыі. Шмат хто ў апазіцыі лічыць, што гэта праўдзе краіну да аўтарытарызму. Сапраўды, палітыка прэм'ера, накіраваная на празмерную цэнтралізацыю ўлады, сведчыць пра гэта. Хаця сам Віктар Орбан — былы дысідэнт і быў у засценках камуністычнага рэжыму. Але сёння яго кумір — Уладзімір Пуцін. І ў знешняй палітыцы Орбана актыўна развіваецца ўсходні вектар.

А яшчэ Орбан паўсюль будуе футбольныя палі і стадыёны. Адзін з іх за некалькі дзён да выбараў быў урачыста прэзентаваны на радзіме прэм'ера. У Еўропе ўжо быў дыктатар, які будаваў стадыёны, — Нікалае Чаўшэску.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Што тычыцца Беларусі, то хвалёная «пасняховасць» гэтай дзяржавы, якая трымалася на датацыях Расіі, хутка будзе зруйнавана, і краіна апынецца перад тварам больш жорсткай рэчаіснасці. Беларускае грамадства, якое навучылі разглядаць Расію вельмі цынічна, як «дойную карову», ужо паспела паразмаўляць з міжнароднай супольнасцю, і прыходзіць да высновы, што дадзеная маржа хутка скончыцца. Аляксандр Лукашэнка вельмі добра разумее, што час культурна сказаць Расіі «дзякуй» і пачаць дыялог з Захадам.

**«Lragir» (Арменія)**

Курс беларускага рубля абнавіў чарговы антырэкорд і яшчэ больш наблізіўся да псіхалагічнай рысы ў 10 тысяч беларускіх рублёў за 1 долар. Адначасова з гэтым Нацыянальны банк зафіксаваў рост цікавасці да набыцця замежных валют з боку мясцовага насельніцтва, а эксперты — усплёск дэвальвацыйных чаканняў. Праўда, нават незалежныя эксперты схіляюцца да таго, што да канца мая, то бок да правядзення Чэмпіянату свету па хакеі, урад утрымае курс усімі праўдамі і няпраўдамі. А потым сітуацыя будзе залежаць ад таго, ці дасць хтосьці грошай.

**«Независимая газета» (Расія)**

Пасля аперацыі ў Крыме расійскія эканамісты прагназуюць велізарныя фінансавыя ўліванні ва ўсе галіны гаспадаркі паўвострава, каб хаця б мінімальна інтэграваць яго ў эканоміку Расійскай Федэрацыі. І гэта прымушае нервавацца беларускія ўлады, бо Беларусь ужо прывыкла жыць пры пастаяннай эканамічнай падтрымцы расійскай дзяржавы.

**«RFI» (Францыя)**

Лукашэнка, што афіцыйна пазіцыяніруе сябе саюзнікам Расіі, з аднаго боку, з'яўляецца прынцыповым ворагам любых рэвалюцыйных пераўтварэнняў на постсавецкай прасторы. Пры гэтым ён абсалютна не жадае ахвяраваць адносінамі з Украінай і вельмі баіцца стаць «васалам Пуціна», якія выконвае дырэктывы Крамля. Гэтыя ўстаноўкі і вызначылі ўсе апошнія дзеянні афіцыйнага Мінска. У цэлым, рэакцыя беларускіх уладаў, якія з'яўляюцца адзінай рэальнай палітычнай сілай у рэспубліцы, у чарговы раз ставіць пытанне аб ступені «саюзніцтва» Аляксандра Лукашэнкі, і, у больш шырокім плане, аб тым, як Расія бачыць перспектывы далейшага развіцця адносінаў з Беларуссю. Праблема, сутнасць якой можа быць выказана фразай: «Чым і кім, урэшце, з'яўляецца Беларусь для Расіі?», па-ранейшаму далёкая ад свайго рашэння.

**«Регнум» (Расія)**

Еўрапейцы пацярпелі фіяска ва Украіне і хочуць цяпер рэваншу. А для інтэграцыі ў ЕС самая падыходзячая краіна з усіх краін «Усходняга партнёрства», на самай справе, Беларусь. Таму яны спрабуюць зацягнуць яе ў больш шчыльную інтэграцыю. Прэзідэнт гэта спрабуе выкарыстоўваць для гандлю з Масквой, але ў яго асяроддзі ёсць людзі, якія сур'ёзна падтрымліваюць еўрапейскую інтэграцыю і лічаць яе рэалістычнай. І яны таксама ўплываюць на палітыку Мінска.

**«Росбалт» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ІТАЛІЯ. Спецаперацыя супраць сепаратыстаў

2 красавіка карабінеры ў розных рэгіёнах Італіі правялі спецаперацыю супраць радыкальнай фракцыі руху за выхад паўночных абласцей са складу краіны. Калі верыць інфармацыі МУС, групоўка рыхтавала вайсковую акцыю ў Венецыі, прычым у самым славутым турыстычным цэнтры — на плошчы Сан-Марка. Правядзенне акцыі было запланавана напярэдадні майскіх выбараў у Еўрапарламент і, на думку, арганізатараў павінна было абвастрыць палітычную сітуацыю ў краіне, каб узняць ролю радыкалаў у палітычных працэсах. Калі б усё пайшло па планах сепаратыстаў, Венецыя ў той жа дзень была б абвешчаная незалежнай рэспублікай. У выніку рэйду карабінераў было арыштавана каля 20 чалавек, некаторыя з якіх належаць да партыі «Ліга Поўначы». Следства сцвярджае, што сепаратысты таксама падтрымлівалі кантакты з адной з секцый албанскай мафіі. Самі затрыманыя, а таксама кіраўніцтва «Лігі Поўначы» сцвярджаюць, што ўсе справы сфабрыкаваныя. У Вероне ўжо нават адбылася акцыя за вызваленне затрыманых. Пратэст супраць пераследу незалежнікаў прагучаў падчас пасяджэння Еўрапейскага парламенту. Варта адзначыць, што сярод затрыманых — некалькі чалавек, якія ў 1997 годзе праходзілі па справе аб арганізацыя тэракту на плошчы Сан-Марка.

**Паводле італьянскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Атэісты пасварыліся з-за беларуса



Польскія атэісты перасварыліся. Усяму прычынай стаў наш зямляк — Казімір Лышчынскі, які нарадзіўся ў Брэсце ў 1643 годзе. У савецкія часы яго імя ведаў кожны беларускі піянер, паколькі Лышчынскі быў піянерам атэізму ў нашых краях. Ён напісаў кнігу «Аб неіснаванні Бога», за што яго ў 1689 годзе спалілі ў Варшаве. Гэты чын памятаюць і польскія прыхільнікі лозунгу пра тое, што «рэлігія — опіум для народа». У 325-ю гадавіну смерці Казіміра Лышчынскага ў рамках Дня атэіста яны ўшанавалі яго памяць тэатральнай акцыяй. На старым рынку ў Варшаве, на тым жа самым месцы, дзе пакаралі нашага земляка, атэісты імітавалі сцэну пакарання. Прычым у ролі Казіміра выступіў вядомы польскі актор Ян Хартман. «Пакаранне» Хартмана выклікала інтарэс грамадства, аднак не спадабалася шмат каму ў лагеры атэістаў. На іх думку, Дзень атэіста засведчыў, што польскія праціўнікі царквы ў вачах грамадства выставілі сябе як маргіналы. Такі падыход, на думку некаторых, ніколі не дазволіць ім дабіцца таго, што дабіліся іх італьянскія калегі. У Рыме на плошчы Campo de Fiori пабудаваны помнік Джардана Бруна, якога таксама спалілі за атэістычныя погляды. Нягледзячы на тое, што Рым — вельмі каталіцкі горад, грамадства і Касцёл пагадзіліся на адкрыццё манументу. Аднак, каб дабіцца гэтага, атэісты не рабілі камічных флэшмобаў.

**Паводле польскай прэсы**

### АРМЕНІЯ. Выбух антытурэцкай істэрыі

У Арменіі выбух антытурэцкай істэрыі ў сувязі з падзеямі ў сірыйскім горадзе Кесаб. Там, згодна са шматлікімі паведамленнямі, апазіцыянеры зладзілі разню мірных жыхароў — у большасці сваёй армян. Паводле апошніх дадзеных, у выніку нападу загінулі каля 80 мірных жыхароў, а 670 армянскіх сем'яў былі вымушаны збегчы з краю. Паколькі гэты рэгіён Сірыі апазіцыянеры атакуюць з баз у Турцыі, армяне лічаць, што часткова за трагедыю нясе адказнасць Анкара. Тым больш, што ў 1915 годзе, калі Кесаб быў часткай асманскай Турцыі, тут таксама меў месца армянскі пагром. «Не выклікае сумневу той факт, што напад на Кесаб — крок, накіраваны супраць мясцовых армянаў і мае на мэце ліквідаваць гэты важнейшы ачаг армянскай абшчыны ў Сірыі. Па сутнасці Турцыя падчас сірыйскага крызісу дамагаецца поўнай ліквідацыі армянскай абшчыны Сірыі», — разважае армянская ўрадавая станцыя «Голас Арменіі». Аднак пратэстамі справа не абмежавалася. У армянскіх СМІ шмат гавораць пра неабходнасць вайсковай дапамогі сірыйскім армянам. Калі верыць некаторым СМІ, моладзь нават пачала фармаваць структуры экспедыцыйнага корпуса, які можа адправіцца ў раён Кесаба. Аднак паколькі такое фармаванне мае незразумелы статус, армянская грамадскасць заклікае ўрад атрымаць афіцыйны дазвол ад Дамаска на ўдзел армян у вайне ў Сірыі.

**Паводле армянскай прэсы**

# Малдаўскі прэцэдэнт

Алег НОВІКАЎ

**Рашэнне аб увядзенні для грамадзян Малдовы бязвізавага рэжыму для наведвання ЕС — знакавая падзея, якая дакладна паўплывае на палітычныя працэсы постсавецкай прасторы.**



**Малдова з'яўляецца першай краінай «Усходняга партнёрства», якая атрымала бязвізавы рэжым з ЕС, не маючы статусу краіны-кандыдата**

Дыялог аб візавай лібералізацыі з Малдовай пачаўся ў чэрвені 2010 года. Тады быў складзены адпаведны план дзеянняў і вызначаныя ўмовы, сярод якіх — «прагрэс, дасягнуты краінай у рэалізацыі ключавых рэформаў у такіх галінах, як умацаванне вяршэнства права, барацьба з арганізаванай злачыннасцю, карупцыяй і нелегальнай міграцыяй, удасканаленне адміністрацыйнага патэнцыялу пагранічнага кантролю».

За амаль чатыры апошніх гады рэалізацыі зацверджанага плана некалькі разоў узнікала ўражанне, што ўсё вось-вось сарвецца. Напрыклад, калі вельмі ўплывовая ў Малдове праваслаўная царква паўстала супраць законапраекту аб талерантнасці, які апазіцыя паднесла грамадству як закон аб свабодах для сэксуальных меншасцяў. У дадатак сярод саміх лабістаў еўрапейскага вектару часам не было адзінства. У мінулым годзе Альянс за еўрапейскую інтэграцыю — урад, створаны на аснове мясцовых нацыянал-ліберальных партый, ледзь не разваліўся з-за унутраных і персанальных канфліктаў. Камуністы — галоўныя апаненты еўраінтэграцыі, неадназова анансавалі правал ідэі бязвізавага рэжыму.

Не дзіўна, што навіна пра новыя візавыя правілы для малдаван стала ўдарам для партыі Уладзіміра Вароніна (лідар Кампартыі Малдовы). У дзень паведамлення пра бязвізавы рэжым з ЕС варонінцы не змаглі не толькі праштурхнуць рэзалюцыю аб недаверы кабінету, але ўвогуле частка камуністаў заявіла пра сыход з партыі і стварэнне свайго праекту.

Камуністам у цяперашняй сітуацыі застаецца мусіраваць тэзіс пра тое, што бязвізавы рэжым не сапраўдны. «Новы рэжым не прадугледжвае магчымасці для грамадзян Малдовы працаваць на легальных падставах у краінах ЕС. Зараз адбываецца татальная дэзінфармацыя грамадзян. Іх спрабуюць пераканаць, што мы ледзь ці не адной нагой у Еўрапейскім саюзе. Гэта няпраўда. Каб атрымаць дазвол на ўезд на 90 дзён, акрамя стандартных дакументаў, грамадзяне Малдовы павінны пацвердзіць свой матэрыяльны стан. Сума разлічваецца па формуле — 40 еўра ў дзень, але не можа быць менш за вызначаны парог у 400 еўра. То бок, усё тое ж самае, што патрабавалася пры афармленні еўрапейскай візы», — адзначае блізкае да камуністаў выданне «Гренада».

«Усё, што трэба Захаду, — гэта назаўсёды адарваць Малдову і Украіну ад варыянту еўразійскай інтэграцыі, каб цалкам выключыць новае аб'яднанне ў любой форме народаў былога СССР», — пішуць камуністы. Натуральна, не абышлося без істэрыі пра тое, што бязвізавы рэжым з ЕС стварыць умовы для больш хуткага паглынання Малдовы Румыніяй, дзе дасюль папулярныя канцэпцыі «Вялікай Румыніі».

Аднак прапаганда камуністаў не выглядае паслядоўнай. На малдаўскіх форумах можна сустрэць шмат контраргументаў. «100 еўра на квіток да Італіі можа знайсці пераважная колькасць грамадзян Малдовы. Наогул, сцвярджаць, што свабода перамяшчэння нікому не патрэбная, можа выключна разумова непаўнавартасны... Я разумею, гэта сур'ёзны ўдар для люмпенаў: усе чатыры гады крычалі, што гэта морква і гэтага ніколі не будзе», — піша адзін з удзельнікаў форуму на сайце Moldnews.

Нават прыднястроўскае выданне «Днестр» прызнае, што бязвізавы рэжым будзе мець вялікія пазітыўныя наступствы для рэгіёну. «Бязвізавы ўезд у ЕС — гэта адкрытая дарога для турызму. Але, калі казаць пра моладзь, то гэта яшчэ і магчымасць прыглядзецца да еўрапейскіх краінаў, магчыма, падумаць не толькі пра адпачынак, але і пра планы на вучобу, пра новыя кар'ерныя магчымасці. (...) Спазнаючы свет, можна павысіць патрабаванні да сваіх уладаў. Калі Малдова сваім прыкладам пакажа Прыднястроўю і той жа Украіне, як можна пабудаваць жыццё без карупцыі, без залішняга пафасу, — у выніку выйграюць усе. І людзі, і рэгіёны, і бізнэс. Чым менш межаў, тым хутчэй наладзіцца нармальнае жыццё, а палітыкі, якія ўводзяць абмежаванні і ставяць бар'еры ў любых сферах, ці гэта будзе свабода перамяшчэння, ці свабода інфармацыі, свабода інтэрнэту — такія палітыкі не маюць будучыні», — піша выданне. Дарэчы, у Прыднястроўі малдаўскія пашпарты маюць каля 300 тысяч чалавек.

Расія вуснамі дэпутата Дзярждумы Леаніда Слуцкага ўжо выказала трывогу наконт таго, што бязвізавы рэжым з ЕС можа ў перспектыве раскалоць грамадства Прыднястроўскай Рэспублікі. Афіцыйны Цiраспаль пакуль гэта не каментуе.

Між тым, скасаванне візаў для Малдовы — падзея куды больш значная. Малдова з'яўляецца першай краінай «Усходняга партнёрства», якая атрымала бязвізавы рэжым з ЕС, не маючы статусу краіны-кандыдата ў сябры ЕС. Такім чынам, сябры ЕС выказваюць сваю падтрымку не толькі Малдове, а ўсім дзяржавам, якія абралі еўрапейскі шлях. І перш за ўсё рашэнне ЕС па Малдове можна разглядаць як акт дэманстрацыі Кіеву рэальнасці ўвасаблення тых каштоўнасцяў, за якія на яго вуліцах ішла сапраўдная вайна.

Як слушна заявіла канцылярыя эстонскага прэзідэнта Томаса Хендрыка Ільвеса: «За кошт дэмакратычных і эканамічных рэформаў Малдова стала прыкладам для многіх дзяржаў у рэгіёне. Спадзяюся, што і для новага ўрада Украіны».

Праўда, трэба прызнаць, што бітву за Малдову Крэмль яшчэ далёка не прайграў. Зараз колькасць прыхільнікаў Мытнага саюзу ў краіне — каля 40 працэнтаў. Прыкладна столькі ў сімпатыкаў ЕС, аднак рэйтынг Альянсу за еўрапейскую інтэграцыю не вельмі высокі. У дадатак, эйфарыя ў малдаўскім соцыуме можа быць нядоўгай. У Сербіі, Албаніі, Македоніі і Чарнагорыі падобныя рашэнні аб візавай лібералізацыі з ЕС былі прыняты некалькі гадоў таму, аднак асабліва эканамічны стан не палепшылі. Аднак, з іншага боку, вопыт пералічаных краін сведчыць, што ў ніводнай з іх пытанне аднаўлення старых візавых правіл не ставіцца. Ізаляцыя ад Еўропы — самы кепскі варыянт пошуку выхаду з крызісу. Таму, думаецца, Малдову ўжо не развярнуць назад. Гэты пастулат, у сваю чаргу, дазваляе задацца пытаннем — хто з краінаў «Усходняга партнёрства» наступны пасля Малдовы?

# Што адкажа Кіеў на сепаратызм?

Алег НОВІКАЎ

**У бліжэйшы час Кіеў павінен знайсці вырашэнне праблемы сепаратызму, інакш канфлікт пяройдзе ў доўгатэрміновую фазу.**

5 красавіка, у той самы дзень, калі на ўсходзе зноў выбухнулі пратэсты, свежанадрукаваны выпуск газеты «Дзеркало Тижня» парадаваў навіной: «Упершыню за апошні месяц на фоне пастаяннага патоку дрэнных навін з'явілася падстава праявіць асцярожны аптымізм і канстатаваць, што «руская вясна» на Данбасе праваліласся».

«Дзеркало Тижня» — лепшае экспертнае выданне ва Украіне. Той факт, што нават лепшыя эксперты «праспалі» вылазку антымайданаўцаў, можна тлумачыць дзвюма версіямі. Першая — у сепаратыстаў вельмі добрая канспірацыя. Гэта пацвярджае тэзіс пра тое, што за пратэстамі стаіць Лубянка, якая засылае на Данбас агентаў і вярбуе для сваіх дыверсій мясцовых цітушак. Калі прыняць такую версію, тады нейтралізацыя рускай вясны на Данбасе выглядае вельмі проста — перакінуць на ўсход яшчэ адну дывізію ўнутраных войскаў, закатаць сепаратыстаў у асфальт — і надыдуць мір і спакой.

Слабое месца канструкцыі — у тым, што цяперашні захоп дзяржадміністрацый у Харкаве, Данецку і Луганску — далёка не першы. І кожны раз пасля чарговай зачысткі акупаваных будынкаў і наступнага хапуна сепаратыстаў (так, пасля акупацыі данецкай АДА у пачатку сакавіка было арыштавана 75 чалавек) захопы працягваліся. Нават калі Авакаў выканае абяцанне на гэтым тыдні разагнаць сепаратыстаў у Данецку і Луганску, нетрывалы мір будзе цягнуцца максімум да 9 мая. Ужо зараз у прарасійскіх колах ідзе актыўная падрыхтоўка да масавых пратэстаў на Дзень Перамогі.

Таму ў Кіеве апошнімі днямі ўзнікла другая версія прычын пратэстаў на ўсходзе, прыхільнікі якой спрабуюць разглядаць іх не як змову шпіёнаў, а як сацыяльную з'яву. Калі так, то вырашыць яе сілавымі сродкамі немагчыма.

Выходны пункт гэтай версіі — ва Украіне існуюць шэраг макрапалітычных зон са сваім асобным бэкграўндам і формамі выказвання пратэстаў. Калі ў Кіеве на акцыю абываецелі возьмуць жоўта-блакітны сцяг, то ў Данецку — хутчэй чырвоны. Для ілюстрацыі можна параўнаць палітычныя культуры Днепрапятроўску і Данецку. У Днепрапятроўску атымайданаўскія актывісты на днях нават атрымалі пакой у памяшканні абласной адміністрацыі для сваіх тусовак.

Улада іх не баіцца, паколькі ва ўсіх фракцый лакальнай эліты ёсць спайка з Кіевам, яны інтэграваныя ў агульнаўкраінскі дыскурс. Акрамя таго, Данецк тут не падтрымліваюць, паколькі яшчэ з часоў СССР дняпроўскія лічылі данецкіх канкурэнтамі.

Што тычыцца Данецку, то цяпер ён аказаўся абсалютна «адключаны» ад цэнтру на ўсіх паверхах грамадства. Эліта, сілавікі і бюракратыя, якім пагражаюць люстрацыі, ледзь не адкрыта сабатуюць інструкцыі з Кіева. Нават свае аперацыі СБУ у тым жа Луганску праводзіць, не інфармуючы мясцовыя аддзелы. Алігархат, калі верыць некаторым СМІ, негалосна фінансуе сепаратыстаў, каб пасля весці з імі перамовы, набіваючы сабе цану ў вачах Кіева для атрымання індульгенцыі ад канфіскацыі актываў. Простыя людзі шарахаюцца ад абвешчанай Яцанюком антыкрызіснай праграмы, паводле якой шахты перастануць атрымліваць датацыі. На гэтыя два вектары накладаецца і трэці — інфармацыйная падтрымка Масквы, якая інспіруе незадаволеных на актыўны пратэст.

Сітуацыя, аднак, не з'яўляецца такой ужо трагічнай, паколькі лагер праціўнікаў Майдану на Данбасе не маналітны. Эліты напросту жадаюць захаваць свае былыя сферы ўплыву. Адсюль лозунг федэралізацыі, рэалізацыя якога дазволіць ім не пускаць цэнтр у свой агарод. Такая формула, паводле Ахметава, аднак, не прадугледжвае трансфармацыю рэгёна ў новае Прыднястроўе.

> У рускамоўных абласцях ідэя федэралізацыі папулярна сярод 16–20 працэнтаў насельніцтва

Нізавым актывам пратэстаў лозунг федэралізацыі ўспрымаецца трошкі па-іншаму. У гэтай масе больш папулярная ідэя славянскага адзінства і адраджэння СССР, калі Данбас быў вельмі развітым краем. Пры гэтым мадэль будучага аўтаномнага Данбасу бачыцца ім абсалютна інакш, чым алігархам, якія жадаюць законсерваваць усё як ёсць. У тым жа маніфесце аб стварэнні Данецкай Народнай Рэспублікі можна пабачыць пункт пра неабходнасць калектыўнага кіравання буйнымі прадпрыемствамі, што па-сутнасці значыць перадзел алігархічнай уласнасці.

Думаецца, што опцыі алігархаў і вуліцы ў Данецку таксама адрозніваюцца ад уяўлення Масквы пра тое, як павінны выглядаць усходнія суб'екты магчымай украінскай федэрацыі. На думку большасці палітолагаў, Масква хацела б мець на паўднёвым Усходзе пояс аўтаномій, якія маюць прыблізна такія ж правы, што меў Крым, калі быў у складзе Украіны. Такая мадэль дазволіць Маскве ўвесь час шантажаваць Кіеў.

Акрамя таго, што праект федэралізацыі — канцэптуальна вельмі размытая рэч, усім відавочна, што большасць украінцаў выступае за ўнітарны лад дзяржавы. Сацыялагічная мяжа падтрымкі федэралізацыі на месцах зафіксавана ў тым жа Данецку. Тут у выпадку рэферэндуму за падобную рэформу дакладна гатовы прагаласаваць каля 40 працэнтаў. У сярэднім у рускамоўных абласцях ідэя федэралізацыі папулярна сярод 16–20 працэнтаў. Нават гуляючы на сацыялогіі, можна паспрабаваць перакапаць данецкіх сепаратыстаў у тым, што яны не прадстаўляюць інтарэсы рускамоўных Украіны, а федэрацыя дзяржавы ва ўмовах, калі толькі адзін рэгіён гатовы «федэралізавацца», невагчымая.

Аднак Кіеў аказаўся не здольны гуляць на раскол лагеру мяцежнікаў і астудзіць эмоцыі. Праблема ў тым, што ва ўраду Яцанюка вельмі вузкія рамкі манеўру. Жах федэралізацыі выпушчаны, і ўсялякія спробы дыялогу з сепаратыстамі могуць разглядацца як здрада Майдану.

У выніку атрымліваецца патавая сітуацыя, якая выключна на руку Маскве. Набліжаецца 25 мая — дата выбараў прэзідэнта. Як піша кіеўская газета «Сегодня», Крэмль з самага пачатку сцвярджаў, што новая ўлада ў Кіеве не мела легітымнасці. Калі не зняць напружанасць, выбары ў Данбасе будуць сарваныя, а значыць, Расія будзе ў стане казаць, што ў новай украінскай улады няма сіл нават на тое, каб правесці годны выбарчы працэс. Гэта дазволіць ёй і далей падаграваць новую хвалю пратэстаў на Усходзе». Праўда, час яшчэ ёсць, і можна спадзявацца на тое, што такі сцэнар здолеюць не дапусціць.

Яўген Блюмінаў, кіеўскі палітолаг, лічыць: «Трэба шукаць тое, што не супярэчыць пасылам Майдана і карыстаецца падтрымкай на ўсходзе. Напрыклад, антыалігархічная праграма. Калі б антыкрызісная праграма Яцанюка была накіравана на тое, каб зацугляць апетыты ўсходніх алігархаў і кампенсаваць за іх кошт рост тарыфаў, гэта б стварыла нейкі масток і больш легітымны імідж ураду ў вачах жыхароў усходу. На жаль, мы бачым, што ўрад пайшоў па старым шляху. У гэтай сітуацыі для ўсходу сітуацыя выглядае так: «папярэдні ўрад быў кепскі, аднак ён быў свой».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Аляксандр Чыкаідзэ



Міністр унутраных спраў Грузіі зрабіў сенсацыйную заяву, паводле якой партыя экс-прэзідэнта Саакашвілі рыхтуе «план дэстабілізацыі» ў краіне, асноўнай часткай якога ёсць правядзенне Еўрамайдану.

Міністр таксама распавёў аб групах з Кіева, нанятых, быццам, Саакашвілі для навучання мясцовага натоўпу і г.д. і да т.п. На думку галоўнага паліцэйскага Грузіі, пачатку беспарадкаў можна чакаць напярэдадні мясцовых выбараў. Аднак, каб супакоіць грамадства, Чыкаідзэ адразу прапанаваў свой контр-план. Дырэктар грузінскага МУС лічыць, што ўрад павінен як мага хутчэй прадэманстраваць свае праеўрапейскія амбіцыі. Такім чынам Захад зразумее, што задуманы Саакашвілі Еўрамайдан не мае ніякіх падставаў. Грузінскае грамадства адрэагавала на заяву кіраўніка МУС па-рознаму, аднак ва ўсіх, акрамя аднапартыйцаў Саакашвілі, цяпер ёсць сталае адчуванне трывогі. Яны ўспрынялі заяву міністра як яскравае ўльтыматыўнае пасланне — або сядзіце ціха, або прышлем справу пра намер арганізацыі масавых беспарадкаў.

### Эд Мілібэнд



Лідар брытанскіх лейбарыстаў прапанаваў адзін з самых радыкальных у гісторыі Вялікабрытаніі праектаў перадачы паўнамоцтваў Лондану мясцовым адміністрацыям.

Такая рэформа пакладзе канец «эры цэнтралізму» і дазволіць перадаць уладу і рэсурсы ў рукі людзей — мяркуе галоўны лейбарыст. Непасрэдна ў выпадку прыходу да ўлады ў наступным годзе лейбарысты збіраюцца для пачатку перадаць мясцовым органам усю адказнасць за транспарт і інфраструктуру жылля, павялічыць фонд дапамогі мясцовым адміністрацыям да 20 мільярдаў фунтаў стэрлінгаў, дадуць ільготы рэгіянальнаму бізнэсу. Ёсць думка перанесці некаторыя міністэрствы за межы сталіцы. Стратэгічная задача лейбарыстаў — скараціць разрыў ва ўзроўні жыцця ў метраполіі і ў правінцыі. Так, напрыклад, розніца ў заробках ужо часам складае каля 40 працэнтаў. Цікава, што абяцанні даць больш аўтаноміі рэгіёнам не перашкаджаюць лейбарыстам актыўна праводзіць кампанію супраць незалежнасці Шатландыі.

### Карым Масімаў



Масімаў — новы прэм'ер-міністр Казахстану. На гэту пасаду Масімаў прыйшоў з пасады кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі, якая па сутнасці з'яўляецца паралельным урадам. Як піша мясцовая прэса, Масімаў паставіў работу адміністрацыі такім чынам, што ні адзін закон у краіне, ні адно важнае рашэнне не прымаліся без яго ведама і, галоўнае, ухвалення. Таму, на першы погляд, вялікіх пераменаў у жыцці Казахстана пасля змены ўраду не прадбачыцца. Іншае пытанне — нашто Назарбаеву было мяняць урад зараз, і чаму выбар быў зроблены менавіта на карысць Масімава. Адны кажуць, што пасля лютаўскай дэвальвацыі тэнге адстаўкі непапулярнага ўраду трэба было чакаць. Што тычыцца выбару на карысць кандыдатуры Масімава, то гэта можа быць звязана з дзвюма прычынамі. Па-першае, Масімаў мае сярод бізнэсу імідж антыкрызіснага менеджара. Па-другое, Масімаў зарэкамендаваў сябе як «душыцель» казахскага Майдану. Нагадаем, што ў лютым па Алма-Аце пракацілася хваля стыхійных выступаў незадаволеных дэвальвацыяй. Масімаву ўдалося арганізаваць працу праваахоўных органаў і шэрагу міністэрстваў такім чынам, каб стрымаць і нават спыніць нарастаючы масавы пратэст. Увогуле, казахская апазіцыя не чакае ад прыходу Масімава на пасаду прэм'ера нічога добрага. Менавіта Карым Масімаў ініцыяваў серыю адыёзных паправак у Крымінальны кодэкс, накшталт артыкула, паводле якога за распаўсюд плётак можна атрымаць да 12 гадоў турмы.

# Лёс беларуса

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Гісторыя жыцця Веньяміна Тоўсціка адлюстроўвае тую трагедыю, праз якую ў ХХ стагоддзі давялося прайсці беларускаму сялянству: цяжкая праца, вайна, палон, акупацыя, НКУС, лагер у Нарыльску.**


Веньямін Тоўсцік, 1934 г.

## З беларускай вёскі ў польскае войска

Нарадзіўся Веньямін Тоўсцік у мястэчку Пліса, Дзісненскага павету, Віленскага ваяводства ў сялянскай сям'і. З малога ўзросту дапамагаў бацькам у працы, а ў 1920 годзе пайшоў у Народную школу, дзе скончыў 7 класаў. Пасля атрымання сярэдняй адукацыі малады беларус заняўся звыклай сялянскай працай. У лістападзе 1934 года Веньяміна прызывалі ў Войска Польскае, ён праходзіў службу ў 32-м пяхотным палку, які дыслакаваўся ў крэпасці Модлін.

У 1930-я гады польскія вайскоўцы тэставалі ў Модліне новыя, на той момант, тэхналогіі арганізацыі крапаснай абароны. Тут мантаваліся жалезабетонныя ДАКі з металічнымі купаламі і новая зброя. У 1936 годзе, улічваючы магчымасць баявых дзеянняў з Германіяй, польскае камандаванне зрабіла акцэнт на павелічэнне колькасці супрацьтанкавай артылерыі на заходнім і паўночным участках абароны Модлінскай крэпасці. Што ж тычылася 32-га палку, то варта пазначыць, што падчас польска-бальшавіцкай вайны 1920 года гэтая вайсковая адзінка ўваходзіла ў склад літоўска-беларускай дывізіі польскай арміі і прымала ўдзел у баявых дзеяннях на Украіне і Беларусі. У 1930-я гады ў складзе палку служыла шмат заходніх беларусаў.

## Гастарбайтар у Эстоніі

У верасні 1936 года Веньямін Тоўсцік дэмабілізаваўся і вярнуўся ў Заходнюю Беларусь. Аднак звычайная сялянская праца не давала магчымасці зарабіць дастатковую колькасць грошаў для набыцця ўласнай зямлі і пабудовы добрай гаспадаркі. Таму ў 1938 годзе селянін з Віцебшчыны вырашае паехаць на працу ў Эстонію. Улады гэтай краіны з вялікай радасцю прымалі сельскагаспадарчых працоўных з ІІ Рэчы Паспалітай. Пры гэтым працаўладкаванне адбывалася не ў цёмную, а на падставе спецыяльных дакументаў — Дамоваў аб працы, заключаных у Эстонскай сельскагаспадарчай палаце ў Таліне.

26 сакавіка 1938 года такую дамову падпісаў і беларус Веньямін Тоўсцік. Працаваць у Эстоніі ён мог на працягу года. У дакуменце, у прыватнасці, адзначалася, што час працы рэгулюецца эстонскім заканадаўствам і не можа быць большым, чым для мясцовых працоўных. «У нядзелю і падчас свят, працоўны абавязаны выконваць толькі неабходныя работы па дому і кармленню жывёлы і вызваляецца ад неабходнасці выканання іншых сельскагаспадарчых прац. Калі з заробку наёмнага працоўнага вылічалася нейкая сума, то працадаўца павінен у зарплатным рахунку падрабязна пазначыць, чаму адбыліся гэтыя вылічэнні», — падкрэслівалася ў Дамове.

Што ж тычыцца заробку, то польскі сельскагаспадарчы працоўны ў Эстоніі ў перыяд з 15 лістапада 1938 года па 15 красавіка 1939 года атрымліваў не менш за 17 эстонскіх крон (каля 24 польскіх злотых) у месяц. Працадаўца меў права павышаць заробак «гастарбайтэра» з ІІ Рэчы Паспалітай, але плаціць менш за 14 крон не дазвалялася. Пры гэтым заробленыя грошы не абкладаліся (!) якімі б тое ні было падаткамі. Таксама Эстонская сельскагаспадарчая палата гарантавала, што працадаўца забяспечвае сваіх працоўных «цёплым жыллём (асобным для мужчын і жанчын) і добрым харчаваннем». Пры гэтым жыллёвыя ўмовы для «палякаў» павінны былі быць не горшымі, чым для эстонскіх грамадзян.

Эстонскі бок гарантаваў, што гастарбайтэры атрымліваюць 10 эстонскіх крон на пакрыццё коштаў падарожжа дадому. Таксама працадаўца купляў польскаму працоўнаму зваротны білет у выпадку хваробы апошняга ці няшчаснага выпадку, з-за якога працоўны стаў інвалідам. Дарэчы, у выпадку захворвання грамадзяніна Польшчы, які знаходзіўся на працы ў Эстоніі, лячылі ў мясцовых шпіталях за кошт працадаўцы. Усе спрэчкі паміж польскімі грамадзянамі і іх мясцовымі працадаўцамі вырашаліся ў эстонскіх судах з абавязковым удзелам прадстаўнікоў Амбасады ІІ Рэчы Паспалітай у Таліне, а таксама супрацоўнікаў Эстонскай сельскагаспадарчай палаты.

## Вайна

Скончыўшы працу ўвесну 1939 года, Веньямін Тоўсцік вярнуўся ў Заходнюю Беларусь. Праз некалькі месяцаў, у жніўні 1939-га, яго мабілізавалі ў Войска Польскае і накіравалі зноў у Модлінскую крэпасць. З 14 па 29 верасня 1939 года гэтая цытадэль мужна змагалася з наступаючымі часткамі вермахта. Камандаваў умацаваным лагерам «Модлін» генерал Віктар Томі. У склад гарнізона ўваходзіла каля 20 тысяч жаўнераў Войска Польскага, каля 96 гармат, 7 танкетак ТК-3. 16 верасня 1939 года на польскую крэпасць распачала наступленне 228-я пяхотная дывізія вермахта.

Каб супрацьстаяць пераўзыходзячаму праціўніку, жаўнеры Войска Польскага павінны былі контратакаваць. Наш суайчыннік з Плісаў таксама ўдзельнічаў у некалькіх штыкавых атаках. Цытадэль падвяргалася жорсткай бамбардзіроўцы нямецкай авіяцыі. З кожным днём сітуацыя польскіх абаронцаў пагаршалася. 29 верасня 1939 года камандаванне крэпасці прымае рашэнне аб капітуляцыі. Сярод іншых абаронцаў Модліна ў палон трапіў і Веньямін Тоўсцік. Беларусаў немцы адпускалі і дазвалялі вярнуцца дадому. А Радзіма ўжо знаходзіўся ў іншай краіне.

Увосень 1939-га Заходняя Беларусь была далучана да СССР. Ужо ў кастрычніку 1939 года былы польскі пяхотнік уладкаваўся на працу ў Райкантору сувязі ў Плісе на пасаду «райарганізатара» «Саюздруку». У 1941 годзе здольнага супрацоўніка накіравалі на Рэспубліканскія курсы павышэння кваліфікацыі ў Стоўбцы.

> Са жніўня 1945 па май 1953 года Веньямін Тоўсцік знаходзіўся ў адным з лагераў у Нарыльску

## Вязень ГУЛАГу

Падчас нямецкай акупацыі Веньямін Тоўсцік працаваў памочнікам сакратара Пліскай валаснай управы і займаўся звычайнай папяровай працай. У паліцыю не ўступаў, у карных акцыях не ўдзельнічаў. Пасля вызвалення гэтай тэрыторыі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў беларус ізноў заняўся распаўсюджваннем савецкіх газет. Але ўжо ўвосень 1944 года ў дом служачага прыйшлі супрацоўнікі НКУС.

Вось вытрымка з пратаколуператрусу, праведзенага асабіста начальнікам Пліскага Раённага аддзелу НКДБ лейтэнантам дзяржбяспекі Навасадавым: «У грамадзяніна Тоўсціка В.А., якога абвінавачваюць у супрацы з акупантам, канфіскаваныя:

Залаты гадзіннік наручны — 1;

Залатая манета царскай чаканкі ў 5 рублёў — 1;

Два залатых пярсцёнка;

Срэбныя нажы, лыжкі, відэльцы».

Праз некаторы час пасляператрусу Веньяміна Аляксандравіча арыштавалі. Яму ўспомнілі працу ў акупацыйнай адміністрацыі і, абвінаваціўшы па 65-м артыкуле Крымінальнага кодэксу БССР, прысудзілі да 10 гадоў лагераў. Пры гэтым уся яго маёмасць была рэквізаваная. У Акце ад 20 верасня 1945 года, складзеным у адпаведнасці з прысудам Вайсковага трыбунала, пазначалася: «Складзены акт вопісу і ацэнка кошту маёмасці асуджанага Веньяміна Аляксандравіча Тоўсціка.

Дом новы двухпакаёвы (адзін) — кошт 15 000 рублёў;

Аўца (адна) — 500 рублёў;

Парася (адно) — 600 рублёў;

Шафа (адна) — 2000 рублёў;

Касцюм мужчынскі (два) — 2000 рублёў;

Дываны (тры) — 350 рублёў;

Швейная машына (адна) — 5000 рублёў;

Паліто мужчынскае (адно) — 2000 рублёў;

Гадзіннік настольны (адзін) — 200 рублёў.

Са жніўня 1945 па май 1953 года Веньямін Тоўсцік знаходзіўся ў адным з лагераў у Нарыльску і працаваў тэхнікам канторы «Спецбуд». Пасля берыеўскай амністыі беларусу дазволілі вярнуцца на радзіму ў Плісу. Пазней ён працаваў на розных мясцовых прадпрыемствах. Ужо пасля смерці Веньяміна Тоўсціка ў 1990-х гадах яго блізкія спрабавалі атрымаць кампенсацыю за рэквізаваныя сямейныя каштоўнасці, аднак зрабіць гэта так і не атрымалася.


Веньямін Тоўсцік (справа), канец 1930-х


Польскія палонныя жаўнеры пасля капітуляцыі Модліна. Дзесці тут быў і В.Тоўсцік


Падчас вопісу маёмасці ў доме Тоўсціка


Эстонія, тут жылі беларускія гастарбайтэры, 1938 г.

# Палец культуры



Марыя МАРТЫСЕВІЧ

**Усе кажуць: Крэмль, Крэмль... У Варшаву я ўпершыню трапіла ў 2002 годзе, пасля чаго была ў гэтым горадзе частым госцем, але за 12 гадоў так і не пераступіла парог Палацу культуры і навукі — манументальнай сталінскай высоткі, першага, што кідаецца ў вочы, калі выходзіш з Цэнтральнага варшаўскага вакзала.**

І вось у апошні прыезд я вырашыла ліквідаваць гэты прабел. Сябры, радасна адгукнуўшыся на маю просьбу, тут жа адвялі мяне ў «Кавярню культуральну» ў адным з вестыбюляў палаца. Не так даўно свечку вышынёй у 230 метраў абставілі хмарачосамі. Цяпер гэта — вінтажная разынка «Варшава-сіці». А 12 гадоў таму, калі я ўпершыню прыехала сюды, Юзэф, як называюць яго варшавяне, узвышаўся над цэнтрам у ганарлівай, злавеснай адзіноце. Жыхары Варшавы далі гэтаму будынку яшчэ адну трапную мянушку: «палец культуры».

Нечакана ў наш дэкаданс уліваецца ўкраінскі пісьменнік Сяргей Жадан — страшна стомлены. Украінскія пісьменнікі апошнім часам — як на перадавой, а Жадан пабываў на перадавой у прамым сэнсе: на галаве выразна праступае шоў.

А я адразу ж са справай. «Сяргей, — кажу, — вы з Міхаілам Елізаравым — практычна равеснікі. Абодва з Усходняй Украіны, абодва вучыліся ў Харкаве. Дзе-небудзь у прэсе або крытыцы абгульваўся гэты факт? Можа, у вас супольныя чытанні з гэтай нагоды былі?» Неа, адказвае Жадан. З Елізаравым ён асабіста не знаёмы, а абгульваць «харкаўскі» фактар журналістам цяжка, бо сам лаўрэат Рускага Букера пра сваё нараджэнне на тэрыторыі Украіны мала распаўсюджваецца.

«А навошта табе?» — пытаюцца за сталом.

«Ды вось, хачу тэкст напісаць пра статус у нас рускамоўных пісьменнікаў. Збіраю фактуру. Разумееце... У святле крымскіх падзей Пуціну для анексіі Беларусі трэба будзе знайсці ў нас хоць нейкае дыскрымінаванае рускамоўнага насельніцтва. А літаратары, што пішуць па-руску — адзіная праслойка, якая мае права заявіць, што яе прыгнятаюць. Гэта значыць, абарона рускамоўнай літаратуры Беларусі — адзіная нагода для Пуціна ўвесці войскі».

«Ну, тады Пуціну трэба будзе ўвесці літаратурныя войскі. Лімонаў, Лук'яненка, Прылепін...» — падумаўшы, адказвае Жадан.

Наша вечарынка працягваецца, а я ўсё думаю пра тэкст, які хацела б напісаць. Пра тое, што, магчыма, я правільна зрабіла, што з ім зацягнула, таму што да Крыму гэта быў бы зусім іншы тэкст.

***

Пра што я збіралася напісаць да Крыму? Спачатку я збіралася растлумачыць, чаму такі тэкст пішу менавіта я.

У васямнаццаць гадоў, думаючы пра літаратурную кар'еру, я без роздумаў абрала беларускую мову як мову творчасці. Найперш таму, што ў таго, хто рос і глядзеў па баках у 1990-я гады ў Беларусі практычна не было сумневаў наконт выбару мовы. Але, у адрозненне ад многіх сваіх калег, якімі кіравалі найперш ідэалы нацыянальнага адраджэння, я зрабіла выбар з пазіцыі эколага: мне хацелася падтрымаць від, які вымірае.

І вось, выдаўшы дзве кнігі па-беларуску і атрымаўшы за іх кухталёў ад беларускамоўнай жа публікі, то бок паварыўшыся ў тым самім беларускім катле пекла, да якога, паводле анекдота, нават чарцей прыстаўляць няма сэнсу, аднойчы я займела вельмі дзіўную размову з мінскім рускамоўным пісьменнікам. Ён лічыў мяне асабіста прычынай сваёй невядомасці і непрызнанасці як у Беларусі, так і ва ўсім свеце.

Я вырашыла не выносіць з гэтай дзіўнай размовы персанальныя крыўды, а зрабіла з яе парадаксальную выснову. Нягледзячы на тое, што я і мае калегі-літаратары часта рызыкуем быць збітымі, калі гаворым па-беларуску на вуліцах Мінска (асабліва дзе-небудзь у спальным раёне), наша культурная пазіцыя — гэта пазіцыя сілы. Бо калі цябе лічаць эксплуататарам і чымсьці камусьці абавязаным, цябе прызнаюць гаспадаром сітуацыі.

І як гаспадар сітуацыі я ў чарговы раз мушу падтрымаць від, які вымірае.

***

Да Крыма я напісала б пра тое, што вайна паміж руска- і беларускамоўнымі пісьменнікамі ў Беларусі — перажытак дзевяностых. Што ўсе беларускія літаратары незалежна ад мовы творчасці — браты па няшчасці, а не канкурэнты.

Наша агульная праблема ў тым, што ў Беларусі няма свайго кніжнага рынку. Ён цалкам замешчаны кніжнай прадукцыяй Расіі. У асноўным — шырспажывам. У гэтым плане Беларусь — задворкі свету, які чытае па-руску.

У тым ліку і рускамоўныя аўтары з Беларусі, каб мець хоць нейкі шанец патрапіць да чытача на радзіме, мусяць прайсці праз буйныя расійскія выдавецтвы, якія дыктуюць свае ўмовы, уносяць у тэкст праўкі, што знішчаюць у ім усё жывое. Я называю расійскія выдавецтвы «ананімайзерамі», бо іх рэдактары імкнуцца прыбраць з рэгіянальнага тэксту любыя згадкі пра месца дзеяння, калі гэта не Піцер ці Масква. Часам спрацоўвае — як у выпадку з Елізаравым, а часам аўтар проста губляе ідэнтычнасць, не набываючы наўзамен нічога, як, напрыклад, менш паспяховы Уладзімір Казлоў. Чытачоў яго «Гопнікаў», жыхары Магілёва са здзіўленнем пазнаюць родны горад у апісаннях, але тэкст адрэдагаваны так, каб чытачы па ўсім свеце ўбачылі ў ім гопнікаў з Уладзівастока, Екацярынбурга і нават з Брайтан-Біч. Цікава, што не так даўно Казлоў здзейсніў «нацыянальны камінаўт», заявіўшы, што заўсёды лічыў сябе беларускім пісьменнікам.

У пісьменнікаў, якія пішуць па-беларуску, у сілу спецыфікі, няма іншага выбару, апроч як друкавацца ў несамаакупляльных прыватных выдавецтвах за грошы культурных фондаў або на ўласныя сродкі. Можна яшчэ адстаяць пяцігадовую чаргу ў калапсуючых без датацый дзяржаўных выдавецтвы — але гэта калі ты не заўважаны ў актыўным выказванні сваёй грамадзянскай пазіцыі, што, пагадзіцеся, для пісьменніка амаль нерэальна. Працэс выдання кнігі беларускамоўным аўтарам доўгі, пакутлівы і прыніжальны. Але ў выніку крытычная маса выдадзеных твораў стварае своеасаблівую нішу, гэткі востраў у моры Данцовых, і прыносіць аўтарам сімвалічны капітал. Аўтары, якія пішуць па-беларуску, больш-менш вядомыя чытачам (тым, хто яшчэ наогул чытае), яны прадстаўляюць краіну за мяжой, яны фармуюць літаратурны канон, з іх меркаваннем лічацца. Для літаратара такі капітал часцяком куды важней, чым капітал рэальны.

Рускамоўныя пісьменнікі адносна нядаўна перанялі гэтую схему. Ствараюцца выдавецтвы, якія заяўляюць, што іх стратэгія — выдаваць папулярную літаратуру пра Беларусь для беларусаў па-руску. Але, на жаль, поспехі гэтых выдавецтваў пакуль малапрыкметныя. Такая дзейнасць усё роўна не акупляецца ў дзесяцімільённай краіне з заканадаўствам, якое не дае выдаўцам ніякіх зніжак (ПДВ для кніжнай прадукцыі — 20%, як і на любы тавар. Для параўнання: у Расіі — 10%, у Швецыі — 6%).

***

Яшчэ адна агульная праблема літаратараў у Беларусі — гэта сама культурная сітуацыя, якая вынікае з палітыкі, што праводзілася ў саюзных рэспубліках з 1945 па 1991 гады. У выніку татальнай русіфікацыі, якая разгарнулася ў Беларусі пасля Другой сусветнай вайны, літаратура ператварылася ў свайго роду бамбасховішча для мовы. Беларускую мову прыраўнялі да фальклору і прызначылі тым самым «нацыянальным зместам», у які варта было ўкладаць «сацыялістычны сэнс». Горкая праўда ў тым, што, калі б не воля Масквы, у мяккацелай БССР па-беларуску пісалі б адзінкі. Гэта значыць, менавіта дзякуючы сваёй дэкаратыўнай функцыі беларуская мова падтрымлівала існаванне і нават худа-бедна развівалася — літаратарамі. Праблемай стала тое, што ў савецкі перыяд практычна цалкам атрафавалася камунікатыўная функцыя беларускай мовы. Нават цяпер размаўляць па-беларуску ў масавай свядомасці азначае быць пісьменнікам (журналістам) або палітыкам правага сектара.

У спадчыну ад савецкіх продкаў сучасным беларускамоўным пісьменнікам дасталася місія захавальнікаў мовы, абаронцаў краіны ад татальнай русіфікацыі. Гэтая інэрцыя адчуваецца і цяпер, што, вядома ж, не спрыяе лёгкай інтэграцыі рускамоўных і беларускамоўных пісьменнікаў у Беларусі, паколькі другія часта бачаць у першых патэнцыйных агрэсараў, якія надзяцца адабраць тое адзінае, што ёсць у беларускамоўнай супольнасці — манаполію на творчасць. Парадаксальна, але факт: чым больш паспяхова будзе адбывацца адраджэнне беларускай мовы, тым імклівей будзе паляпшацца становішча рускамоўных беларускіх аўтараў.

***

Ёсць у рускамоўных літаратараў і тое, што адрознівае іх ад беларускамоўных. У тым ліку, ёсць рэчы, якім «писателям» варта павучыцца ў «пісьменнікаў».

Перш за ўсё, агульная бяда беларусаў — адсутнасць салідарнасці. Гэта датычыцца, напэўна, усяго асяроддзя беларускіх літаратараў, але па традыцыі, якая склалася ў дзевяностыя, беларускамоўная культурная супольнасць усё-такі больш кансалідаваная.

Асобныя рускамоўныя пісьменнікі Беларусі часта абвяшчаюць сябе дыскрымінаванай меншасцю, аднак пакуль нельга сказаць, што гэта пазіцыя нейкай больш-менш вялікай групы, якая самаарганізавалася і праводзіць сваю культурную палітыку.

Асабіста для мяне дваістае становішча нашых рускамоўных пісьменнікаў — гэта іх яскравая рыса. І калі пісьменніца Таццяна Заміроўская для мяне — частка «барысаўскага феномену», які таксама даў нам Юрыя Станкевіча і Алену Брава, то расійскі крытык можа параўнаць яе з блізкімі ёй па метадзе расійскімі аўтарамі. І мы абодва будзем мець рацыю.

***

Так ці інакш, зрабіла б я выснову ў тэксце, напісаным да Крыму, у Беларусі за апошнія дваццаць гадоў развіўся новы — грамадзянскі тып самасвядомасці. І нядзіўна, што паэты і пісьменнікі першымі гэта зразумелі, сфармулявалі і прапусцілі праз уласны вопыт. Моўная карціна ў літаратуры Беларусі менавіта цяпер актыўна змяняецца, і вельмі цікава назіраць за гэтымі зменамі.

Але вось здарыўся Крым, і мы — рускія, беларусы і ўкраінцы — сядзім у «Кавярні культуральнэй» на першым паверсе «пальца культуры», адчуваем на сабе ўвесь дэкаданс чатырнаццатага года, усю бездапаможнасць любой культурнай інтэграцыі перад малохам гісторыі. Ці хопіць нам, пісьменнікам Беларусі, мужнасці не падзяліцца, не напасці адзін на аднаго з надуманымі прэтэнзіямі, калі намі пачне дырыжыраваць нябачны Палец Культуры? Вось што я хацела б ведаць.

**Рускамоўная версія артыкула — на сайце journalby.com**

# Рок назаўжды–3. Ад волі да няволі

Генадзь КЕСНЕР

**Убачыў свет відэадыск «Рок назаўжды–3. Ад волі да няволі». Прадусарам выдання стаў Юры Цыбін — заснавальнік легендарнага фестывалю «Рок-каранацыя», у якасці рэжысёра выступіў Сяргей Ісакаў.**

Галоўныя героі цяперашняй стужкі — лідар гурта «П.Л.А.Н.» Андрэй Плясанаў, фронтмэн каманды «Нейра-Дзюбель» Аляксандр Кулінковіч, спявак і кампазітар Зміцер Вайцюшкевіч і стаўшая культавай за апошнія гады асоба — заснавальнік і галоўны голас каманды «Ляпіс Трубяцкі» Сяргей Міхалок.

Што з'ядноўвае гэтых людзей? Безумоўны талент, адметнасць, яскравасць, але перш за ўсё — грамадзянская пазіцыя. Як вынік апошняй — неспрыяльнае стаўленне з боку чыноўніцтва, фактычная, хоць і

**Аўтары дыска далі выказацца самім героям, не ўмешваючыся ў плынь іх свядомасці**

негалосная, забарона на канцэрты (хтосьці, праўда, як «Нейра-Дзюбель», мае магчымасць выступаць хаця б па беларускіх клубах, іншыя ў большыні выпадкаў пазбаўленыя і такой магчымасці).

Аўтары фільма стварылі стужку ў жанры «інтэрв'ю без пытанняў». Адчуваецца, што пытанні ўсё ж былі, але ўсе чатыры сюжэты (пра кожнага героя асобна) выглядаюць нібы маналогі. Маналогі пра тое, як склаўся лёс слынных выканаўцаў і чаму яны не падабаюцца ўладзе. Да прыкладу, Андрэй Плясанаў зразумеў, што стаў «непажаданым», у 2007 годзе, калі перастаў атрымліваць «аўтарскія» за пракрутку ягоных песень па дзяржаўным радыё і тэлебачанні.

«Усе забароны сыходзяць ад нашага ўласнага страху. Ахопліваў нават жах, калі ў малюпасенькім клубе на 80 чалавек адмянялі канцэрт пасля таго, як туды тэлефанавалі з адміністрацыі прэзідэнта», — кажа галоўны «Дзюбель» Беларусі Аляксандр Кулінковіч. Зміцер Вайцюшкевіч не мае магчымасці весці актыўную канцэртную дзейнасць пасля свайго ўдзелу ў акцыі пратэсту ў Мінску 10 снежня 2010 года. Сяргей Міхалок разам з астатнімі «Ляпісамі» ад 2012 года знаходзіцца ў вымушанай творчай эміграцыі, бо выступы ягонага калектыву таксама знаходзяцца пад негалоснай забаронаю ў Беларусі.

Аўтары дыска далі выказацца самім героям, не ўмешваючыся ў плынь іх свядомасці (у добрым сэнсе гэтага слова).




Самі музыкі — вельмі розныя і па стылі, і па форме паводзінаў. Але стваральнікам дыска атрымалася перадаць усю іх натуральнасць і шчырасць, чаму спрыялі і месцы здымак — ад хутара «Вайцюшкі» да кватэры-студыі Плясанава і аўтобуса, які перавозіў з аднаго месца выступу да іншага Міхалка і кампанію. І ў кожным з чатырох сюжэтаў, натуральна, паказаныя і выступы герояў фільма на сцэне.

«Ад волі да няволі». Адчуваецца, што стваральнікі 31-хвіліннага фільма хацелі перадаць, што такі шлях можа надарыцца кожнаму выканаўцу, як і проста кожнаму чалавеку, хто жыве ў сённяшняй Беларусі. І гэты фільм — спроба хоць крыху прыадчыніць душу тых, хто гэты шлях ужо зведаў на ўласнай скуры. Што ж да саміх герояў стужкі, то яны насамрэч заслужылі, каб застацца ў гісторыі беларускай музыкі назаўжды. Таму гэты дыск стане добрым падарункам усім аматарам сапраўднай айчыннай, хоць і разнапланавай, культуры.

## Яны вас чакаюць

**Падарыце надзею гэтым сабакам, дайце ім прытулак — і вы ніколі не зведаеце, што такое адзінота.**

### ДОРАЦІ



Дораці ўсяго год, але за гэты год яна паспела пабачыць шмат жахаў, ейнае сардэчка дагэтуль не адтаяла.

У дзяцінстве яе пастаянна крыўдзілі іншыя сабакі, ледзь не знялі скальп, таму ў Дораці шмат шрамаў. Сабака пужлівы, асцярожны. Пры гэтым вельмі сціплы і непатрабавальны. Дораці проста трэба знайсці сваё роднае сардэчка сярод людзей, сапраўднага Чалавека, які прыме ўсе асаблівасці Дораці і здолее ўкладаць свае сілы і час у тое, каб зрабіць яе самым шчаслівым сабакам. Калі такі герой — менавіта вы, тэлефануйце: 8(029) 7755753, 8(029) 1911095, Наста.

### АЯ

Маладзенькая прыгажуня Ая шукае свой дом. Ідэальна для ўтрымання ў кватэры — усяго 30 сантыметраў росту, прызвычаеная да выгулу. Але галоўнае — залаты характар сонечнай Аечкі. Сапраўдны сябар з адданым сэрцам. Пазнаёміцца з Аяй можна, калі патэлефанаваць валанцёру Насце: 8(029) 7755753, 8(029) 1911095.



### ЛІНДА



Лінда з тых шматлікіх жывёлаў, якіх штогод кідаюць на лецішчах. Ёй пашанцавала не здзічэць і не памерці ад голаду, а патрапіць да валанцёраў. Лінда сябе зарэкамендавала актыўнай, кантактнай і непатрабавальнай дзяўчынкай. Ёй паўтары гады, ростам каля 45 сантыметраў, стэрылізаваная. Падыходзіць для жыцця ў вальеры. Тэлефануйце Насце: 8(029) 7755753, 8(029) 1911095.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 464

Падпісана да друку 11.04.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.